









АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

1 сакавіка 2000 года
Цана 60 рублёў

№ 9 (2671)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

АСАЦЫЯЦЫЯ «СВЯТЛО РАДЗІМЫ»



## «ЭКСІТ» ШУКАЕ СЯБРОЎ

Яшчэ нядаўна клубная сістэма адпачынку была ў Беларусі не надта пашыранай. Сёння ж усё актыўней з'яўляюцца суполкі, у якіх свой вольны час бавяць людзі агульных інтарэсаў і захапленняў.

Клуб "ЭКСІТ" быў створаны два гады назад. Як успамінае адзін з яго арганізатараў і самых актыўных удзельнікаў Яўген Казяк, спачатку гэта была невялікая групка сяброў- аднадумцаў, якія збіраліся на кафедры спартыўных адзінаборстваў Акадэміі фізвыхавання. Першапачаткова іх мэтай было навучыцца правільным паводзінам у экстрэмальных сітуацыях — адсюль і назва клуба. Галоўная задача яго — падтрыманне і развіццё здаровага ладу жыцця, духоўнае і фізічнае ўдасканаленне.

Сёння членаў клуба ў некалькі разоў болей, чым было напачатку. Прыхільнікі спорту прыходзяць у "ЭКСІТ" цэлымі сем'ямі, тут кожны зможа знайсці занятак па душы: і спартыўныя адзінаборствы, і басейн, і тэніс, і аэробіка, і нават зімовае купанне. Дарэчы, традыцыйныя снежаньскія ныранні ў палонку ў мінулым годзе сабралі каля 300 "маржоў".

Сёння клуб "ЭКСІТ" уваходзіць у асацыяцыю "Святло Радзімы", дзейнічае ў рамках праграмы "Гарманічнае развіццё" і спадзяецца наладзіць сувязі з аналагічнымі клубамі за мяжой.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

Электронны адрас клуба "Эксіт":
**оон — ya@carry. n sys. by.**
або:
**logwest@kkk. belpak. minsk. by.**



АФІЦЫЙНА

"Я не павінен быў дапусціць, каб мой узрост стаў перашкодай у выкананні абавязкаў прэм'ер-міністра краіны". Такую заяву ў ходзе нарады з удзелам Прэзідэнта Беларусі зрабіў цяпер ужо былы кіраўнік беларускага ўрада Сяргей Лінг.

"Яго вопыт у самыя цяжкія часы, часы пераломy дапамог нам пазбегнуць краху ў эканоміцы", — падкрэсліў Прэзідэнт.

За вялікі ўклад у развіццё эканомікі Беларусі Сяргей Лінг узнагароджаны ордэнам Пашаны.

Прадстаўляючы выконваючага абавязкі прэм'ер-міністра Уладзіміра Ярмошына, Аляксандр Лукашэнка назваў яго дзелавым, вопытным і дасведчаным чалавекам... "Наша палітыка застаецца нязменнай. Гэта народная палітыка", — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

## БЕЛАРУСКАЯ КНІГА-99

У Мінску ў Нацыянальным выставачным цэнтры "Белэкспа" прайшла VI Міжнародная спецыялізаваная выстава "Combit-2000", прысвечаная сучасным тэхналогіям у паліграфіі, выдавецтве і рэкламе. Адначасова з ёю праходзіла і кніжная выстава "Беларуская кніга-99", на якой было прадстаўлена больш за паўтары тысячы экспанатаў.

Як паведаміў журналістам намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь Станіслаў Нічыпаровіч, патрэбы насельніцтва ў літаратуры розных тэматычных накірункаў у асноўным забяспечаны. Усяго ў мінулым годзе было выпушчана 6 064 назвы кніг і брашур агульным тыражом 63,3 мільёна экземпляраў. Было адзначана, што колькасць назваў захавалася на ўзроўні папярэдняга 1998 года, а агульны тыраж меў нязначнае павелічэнне.

Сярэдні тыраж аднаго выдання склаў 10,4 тысячы экземпляраў (у 1998—9,9). На 100 чалавек насельніцтва рэспублікі ў 1999 годзе было выдадзена 630 кніг і брашур (у 1998—590).

Аднак, нягледзячы на гэтыя паказчыкі, беларускія кнігавыдавецтвы перажываюць крызісны перыяд. На агульным з Расіяй кніжным рынку беларускія выданні страчваюць сваю канкурэнтаздольнасць. Прычына ў тым, што расійскія калегі працуюць у больш спрыяльных умовах: закон "Аб дзяржаўнай падтрымцы сродкаў масавай інфармацыі і кнігавыдання Расійскай Федэрацыі" дае ім шэраг ільгот. У нашай краіне сітуацыя адваротная: беларускія кнігавыдаўцы пазбаўляюцца былых падатковых, мытных і іншых ільгот і, акрамя таго, са студзеня 2000 года павінны плаціць падатак на дабаўленую вартасць, што значна павышае кошт кнігі. У выніку ўжо зараз адчуваецца моцны адток расійскіх заказчыкаў.

Выпускам друкаванай прадукцыі ў Беларусі займаюцца звыш 400 суб'ектаў гаспадарання розных форм уласнасці, дзесяць з якіх — дзяржаўныя выдавецтвы.

Дзяржаўнымі выдавецтвамі ў 1999 годзе выпушчана 665 кніг і брашур тыражом 8,96 мільёна экземпляраў, што складае 11 працэнтаў ад агульнай колькасці назваў і 14,2 працэнта — ад агульнага тыражу.

Як і ў папярэднія гады, асноўным клопатам дзяржаўных выдавецтваў было выданне сацыяльна значнай літаратуры. У 1999 годзе ўбачылі свет такія адметныя выданні, як восьмы і дзевяты тамы 18-томнай "Беларускай энцыклапедыі", "Слоўнік іншамоўных слоў" у двух тамах, асобныя тамы са збораў твораў Я. Купалы, Н. Гілевіча, хронікі "Памяць", выданні, прысвечаныя 200-годдзю з дня нараджэння А. Пушкіна, іншая літаратура.

Друкаваная прадукцыя выдавецкіх прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці ў агульным аб'ёме займае 54 працэнты па колькасці назваў, 83,3 працэнта — па тыражу.

На беларускай мове ў 1999 годзе выйшла ў свет 647 кніг і брашур тыражом 5,1 мільёна экземпляраў, з іх у дзяржаўных выдавецтвах — 255 назваў тыражом 4 мільёны экземпляраў. У параўнанні з мінулым годам колькасць назваў беларускамоўных выданняў у рэспубліцы зменшылася на 19,7 працэнта, тыраж — на 27,8 працэнта. Сярод аб'ектыўных прычын гэтай з'явы Станіслаў Нічыпаровіч вызначыў незапатрабаванасць беларускай літаратуры чытачом. Нягледзячы на фінансавую падтрымку — беларускамоўныя выданні датуюцца дзяржавай амаль на 50 працэнтаў — з-за невялікага тыражу (для паэзіі ў сярэднім 1,5 тысячы экземпляраў, для прозы — 3 тысячы) яны застаюцца неканкурэнтаздольнымі ў параўнанні з кнігамі на рускай мове.

Што тычыцца тэматычных напрамкаў беларускай літаратуры, выдадзенай у мінулым годзе, на першым месцы тут знаходзяцца мастацкія кнігі, вучэбная і папулярная літаратура. Сярод мастацкай літаратуры асобным поспехам у мінулым годзе карысталася класічная.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**




ТРЫ ПАКАЛЕННІ



Актрыса Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, народная артыстка Беларусі Святлана АКРУЖНАЯ з сынам Дзмітрыем і ўнукам Арцёмам.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

СПОРТ

**ФРЫСТАЙЛ.** У амерыканскім Хевенлі дзесятка лепшых лыжных акрабатаў планеты разыграла апошні комплект узнагарод прэстыжнага турніру "Бамс энд джампс". Два беларускія фрыстайлісты Дзмітрый Дашчынскі і Аляксей Грышын ужо ўзялі за правіла вывозіць з такіх турніраў як мінімум адзін прыз. На гэты раз прыгожы скачок Дзмітрыя — трайное сальта з трыма і чатырма піруэтамі — не пакінуў ніякіх шансаў сапернікам. У выніку — першая прыступка п'едэстала гонару. Аляксей Грышын у агульным заліку стаў трэцім.

**ВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА.** У Лейпцыгу завяршыўся буйны міжнародны турнір Гран-пры па вольнай барацьбе. Ён прынёс нашай камандзе два залатыя медалі. Адну перамогу ў вазе да 54 кілаграмаў атрымаў Герман Кантоеў, другую — Аляксей Мядзведзь у суперцяжкай катэгорыі да 130 кілаграмаў. Шансы Аляксея на паездку ў Сіднэй пасля гэтай перамогі сталі амаль стопрацэнтнымі.

**Каця МАЗАКОВА.**

САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС



# «КАМАРОЎКА»
# У ІНТЭР'ЕРЫ СПАЖЫВЕЦКІХ ПРАБЛЕМ


В. Мешчанінаў

**ДЗЯРЖАЎНАЕ прадпрыемства "Мінскі Камароўскі рынак" — галоўны спажывецкі рынак краіны. Толькі крыты будынак размахнуўся на 20 тысяч квадратных метраў, амаль столькі ж займае адкрыты сезонны рынак. Прыплюсуем сюды прырыначную плошчу і гандлёва-транспартную пляцоўку, дзе гараджане могуць набыць тавар па аптова-закупачных цэнах, гасцявую стаянку для транспарту, прылеглую плошчу — цэлы мікрараён атрымаецца.**

**Адным словам, неспакойная гаспадарка, дзе, акрамя пяці магазінаў уласнага гандлю дзяржаўнага прадпрыемства "Мінскі Камароўскі рынак", працуе каля чатырох тысяч суб'ектаў рознай формы ўласнасці, прадпрымальнікаў. А хіба не красамоўны факт: штодзень наведвае рынак 200 тысяч чалавек... Насельніцтва цэлага горада!**

**Увесь дзень гудзіць, як вулей, Камароўка. А к вечару, стомленая, сціхае і пакідае (не паверыце!) 5—6 машын смецця!**

**Штодзень служба санітарыі, дарэчы, нешматлікая па аб'ектыўных мерках (каля 100 чалавек), прыбірае, чысціць, мые вялізную гандлёвую тэрыторыю. І да гонару прадпрыемства: за апошнія гады адпаведныя службы горада ні разу не закрывалі рынак па санітарнаму стану.**

**Дырэктар дзяржаўнага прадпрыемства "Мінскі Камароўскі рынак" Віктар Мешчанінаў пачаў працаваць у складаны час. Крытае памяшканне гэтага гандлёвага збудавання, якое, дарэчы, з'яўляецца помнікам архітэктуры, перажывала "вялікі" перыяд рэканструкцыі. Абнаўляўся дах купала — а гэта справа працаёмкая і дарагая! Давялося сабраць усё да капейкі і выплаціць даўгі па ўзятаму крэдыту.**

**Сёння рынак працягвае рэканструкцыю гандлёвага комплексу. Але, па словах дырэктара, у цэнтры ўвагі — пытанне забеспячэння цывілізаванага, сацыяльна-арыентаванага гандлю, інтарэсы пакупнікоў. Пра гэта і іншае мы гутарылі з дырэктарам ДП "МКР" Віктарам МЕШЧАНІНАВЫМ.**

***— Віктар Міхайлавіч, якія асаблівасці Камароўскага рынку? Хто вашыя партнёры? Ці ёсць (і ці можа быць наогул) механізм рэгулявання, стрымлівання цэн?***

— Сёння, нягледзячы на з'яўленне новых, сучасных рынкаў, Камароўскі па-ранейшаму — буйнейшы харчовы рынак краіны і адзін з цэнтральных гандлёвых пунктаў горада Мінска.



Як вядома, архітэктурны комплекс рынку будаваўся да Маскоўскай Алімпіяды 1980 года. Рынак разлічаны на 1 200 гандлёвых месцаў у крытым памяшканні і 1 800 — у адкрытых сезонных радах. Да перабудовы на рынку рэалізоўвалася харчаванне, выробленае калгасамі, іншымі сельгаспрадпрыемствамі, лішкі сялянскага падворку. Геаграфія паставак, у асноўным, абмяжоўвалася рэспублікамі былога Саюза, паўднёвымі рэгіёнамі.



Сёння ж па адрасах паставак тавараў, якія рэалізуюцца на рынку, можна вывучаць карту свету. Экзатычныя дары прыроды завозяцца часам з самых далёкіх куткоў. Сёння рынак — вялікі універсальны магазін, у якім прадаюцца практычна ўсе віды харчовых і прамысловых тавараў. Але прыярытэт харчовага рынку дыктуе неабходнасць некаторых змен у арганізацыі рынačнага гандлю. Як вядома, цэны на рынку вызначаюць попыт і прапанова.

Акрамя таго, уздзейнічаць на цэны можна, павялічваючы завоз тавару. Зразумела, што тавар не можа быць прададзены танней, чым закуплены. Акрамя таго, на яго робіцца гандлёвая надбаўка, якая павінна пакрыць расходы па рэалізацыі і забяспечыць пэўны прыбытак. Найбольш нізкія цэны мае тавар, які прадае на рынку непасрэдны яго вытворца. Гэта аграфірма "Сноў", Вілейскі малочны завод, аграфірма "Ждановічы", гаспадарка "Нясвіжская", птушкафабрыкі, прадукцыю якіх нашы пакупнікі добра ведаюць.



Летам на рынку сваю прадукцыю прадаюць многія гаспадаркі, фермеры, сяляне. Акрамя таго, на рынку адкрыта пяць магазінаў уласнага гандлю ДП "МКР", дзе рэалізуецца тавар па цэнах, устаноўленых органамі цэнаўтварэння. Мяса ў нашым магазіне заўсёды самае таннае, што прыцягвае шматлікіх пакупнікоў.

Што тычыцца насычанасці рынку прадуктамі харчавання, то ў нас можна купіць практычна ўсё, пачынаючы ад малочнай прадукцыі, мяса і заканчваючы рыбнымі далікатэсамі на любы густ.

Для абароны інтарэсаў пакупнікоў афармлена неабходная наглядная інфармацыя. Пры ўваходзе ў рынак пра цэны інфармуе лічбавае табло. Устаноўлены кантрольныя шалі для тых, хто жадае праверыць вагу пакупкі. У гандлёвай зале дзяжураць кантралёры ў ярка-аранжавым спецадзенні. Яны стараюцца папярэдзіць магчымы канфлікт, дапамагчы пакупніку зарыентавацца на рынку. Увесь дзень у гандлёвай зале працуе дзяжурны адміністратар. Праз радыёвузел да пакупніка, ды і прадпрымальніка даводзіцца неабходная інфармацыя пра правілы гандлю, санітарыі, робяцца іншыя паведамленні.

Наш прынцып: пакупнік заўсёды мае рацыю! І калі ў нечым мы толькі на падступах да арганізацыі сучаснага еўрапейскага рынку, то намеры калектыву зрабіць яго такім вельмі шчырыя і рэальныя.

***— Спрадвеку лічылася, што рынак — твар горада, лакмусавая паперка, найярчэйшы паказчык узроўню жыцця. Дык як, на ваш погляд, Віктар Міхайлавіч, мы жывём?***

— Пытанне гэтае філасофскае. Адназначна не адкажаш. У плане бытавым, сацыяльным, матэрыяльным існуюць прыкметныя кантрасты.

Па цэнтральнай алеі крытага рынку размешчаны экзатычныя гандлёвыя рады, якія народ называе "багатымі радамі". Спелыя клубніцы, свежая бульба зімою, ананас, ікра, вэнджаныя вугры — гэта толькі асноўныя арыенціры шырокага асартыменту тавару. І на яго ёсць пакупнік.

Насупраць размешчаны халадзільныя прылаўкі (дарэчы, новыя, сучасныя), дзе рэалізуюцца каўбасныя вырабы беларускай вытворчасці. Сацыяльна-арыентаваныя цэны вабяць сюды мноства пакупнікоў. Мясныя рады ДП "МКР" таксама не мінае пакупнік. Так, грамадства неаднароднае. У людзей розныя даходы. Але ў агульным можна гаварыць пра даступнасць цэн на беларускім рынку.

***— Ці ствараюць праблемы для адміністрацыі рынку гандляры з іншых краін?***

— Наступствы вайны ў брацкай Расіі патрабуюць пільнасці і ад нас. Але ўсе, хто мае законнае права жыць, працаваць, весці прадпрымальніцкую дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, у тым ліку і на нашым рынку, не могуць быць абмежаваны ў сваіх законных правах.

У гэтым плане мне імпануюць словы Прэзідэнта нашай краіны, што асноўным крытэрыем дэмакратыі ў Беларусі служыць той факт, што беларусы, украінцы, рускія, яўрэі, казахі,.. якія пражываюць у рэспубліцы, адчуваюць сябе аднолькава добра або аднолькава дрэнна.



***— Віктар Міхайлавіч! Некаторыя сродкі масавай інфармацыі адгукнуліся на неўраджайнае лета 1999 года сумным прагнозам: "Зімой есці не будзе чаго!" Мяркуючы па прылаўках вашага рынку, гэты сумны прагноз не пацвердзіўся. Вы, як прафесіянал і сталы чалавек, які перажыў і картачную сістэму размеркавання тавараў, і перабудовачны спрыт прадпрымальніцкага гандлю, як ацэньваеце цяперашнюю сітуацыю з харчаваннем?***

— На мой погляд, вы ўжо самі адказалі на пытанне. Асартымент гандлёвых радоў Камароўскага рынку — доказ таго, што прагноз скептыкаў не спраўдзіўся.

Праўда, за кадрам застаюцца тыя намаганні, што былі зроблены спецыялістамі, якія адказваюць за насычанасць спажывецкага рынку сталіцы, краіны.



***— У горадзе шмат іншых рынкаў. У чым, на ваш погляд, прыцягальнасць Камароўскага?***

— Па-першае, рынак — у цэнтры горада. Па-другое, у нас прапаноўваецца суб'ектам гаспадарання вялікі пералік паслуг. Прымальная арэндная плата. Буйны пакупніцкі паток.

***— Камароўскі рынак усё выразней набывае сучасныя рысы. Якім вы бачыце яго ў будучыні?***

— Праведзена велізарная праца па рэканструкцыі ўсяго комплексу Камароўскага рынку. Работы па аднаўленню абсталявання, добраўпарадкаванню тэрыторыі будуць працягвацца. У сакавіку пачнецца рамонт сезоннага рынку. Прыкладныя затраты на аднаўленне толькі аднаго гандлёвага сектара — звыш 100 тысяч долараў ЗША. Але гэта трэба рабіць: горад павінен мець цывілізаваны рынак.

***— ДП "МКР" — гэта цэлы сацыяльны кангламерат. На прадпрыемстве мноства людзей у нялёгкі час знайшлі сацыяльны прыстанак: працоўныя месцы, магчымасць ажыццявіць прадпрымальніцкую дзейнасць. Як складваюцца адносіны адміністрацыі рынку з прадпрымальнікамі?***

— Нармальныя, дзелавыя, узаемавыгадныя, канструктыўныя. Прадпрымальнікі на працягу мінулага года прымалі актыўны ўдзел у правядзенні кірмашоў, святочнага гандлю. Удзельнічаюць у добраўпарадкаванні і афармленні рынку.

У сувязі з рэканструкцыяй адкрытых радоў у нас узнікла неабходнасць скарачэння гандлёвых месцаў, дзе рэалізуюцца прамысловыя тавары. Спрабуем захаваць працоўныя месцы інвалідаў, удзельнікаў вайны і гэтак далей. Таму важны душэўны кантакт з людзьмі.

На рынку ўстаноўлена новае гандлёвае абсталяванне, сталы з гігіенічным пакрыццём, адноўлены парк уборачнай тэхнікі. Устаноўлены рэкламныя шчыты ў крытым памяшканні. Адкрыліся новыя, сучасна аформленыя павільёны.

Якім бы хацеў бачыць рынак? Вялікім сучасным гастранамічным магазінам, куды пакупнік прыйдзе не толькі па пакупку, але і па настрой. Не выпадкова сезонныя кірмашы мы імкнёмся ператварыць у свята. Запрашаем артыстаў, і прырыначная плошча ў такія дні напаўняецца вяселлем, радасцю.

***— Віктар Міхайлавіч, нельга не задаць вам і такое пытанне. У вас на прадпрыемстве медабслугоўванне ахоплівае і прадпрымальнікаў, і пакупнікоў. Гэта дорага каштуе? Чым вы кіраваліся, калі адкрывалі медслужбу?***

— Думалі пра людзей. У такім чалавечым мурашніку, як наш рынак, ніхто не павінен згубіцца. Дрэнна стала чалавеку, упаў ці траўміраваўся, ён тут жа можа атрымаць неабходную дапамогу. За апошнія тры месяцы ў медыцынскі пункт звярнуліся па дапамогу 1 926 чалавек. Утрымліваецца медпункт за кошт прыбытку прадпрыемства, але пакінуць такі буйны аб'ект, як рынак, без медыцынскай дапамогі проста немагчыма. Дорага, але здароўе чалавека даражэй.

***— Вялікі дзякуй вам за гутарку, Віктар Міхайлавіч.***

**Гутарыла Надзея СІЎЧУК.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**



## ЦЭНЫ КАМАРОЎСКАГА РЫНКУ НА КАНЕЦ ЛЮТАГА

| Назва | Цана за 1 кг. на рынку ў руб. | Цана за 1 кг у магазінах ДП "МКР" у руб. |
|---|---|---|
| **Агародніна** | | |
| бульба | 120—180 | 113 |
| буракі | 160—200 | 84 |
| морква | 150—250 | 158 |
| часнок свежы | 1 200—1 800 | 601 |
| часнок мар. | 1 500—2 000 | |
| цыбуля рэпчатая | 210—240 | 228 |
| памідоры | 1 000—3 000 | |
| агуркі свежыя | 1800—3 000 | |
| агуркі салёныя | 350—450 | |
| капуста | 81—150 | |
| **Садавіна** | | |
| яблыкі беларускія | 330—570 | |
| грушы | 950—2 000 | |
| вінаград | 1 500—4 000 | |
| бананы | 950—1 200 | |
| лімоны | 820—1 200 | |
| апельсіны | 650—1 100 | |
| мандарыны | 800—1 200 | |
| **Сухафрукты** | | |
| разынкі | 800—1 800 | |
| курага | 1500—3 500 | |
| чарнасліў | 980—3 000 | |
| інжыр | 1000—2 300 | |
| фінікі | 1100—1 500 | |
| **Арэхі** | | |
| грэцкія | 870—1 000 | |
| арахіс | 1 100—1 500 | |
| фундук | 1 100—3 000 | |
| **Мяса** | | |
| свініна | 1 300—2 400 | 2 259 |
| сала свежае | 800—1 200 | 1 038 |
| сала салёнае | 1 300—2 100 | |
| цяляціна | 1 200—3 000 | |
| ялавічына | 850—2 300 | 937 |
| куры | 1 010—1 050 | 1 040 |
| **Каўбасныя вырабы** | | |
| каўбаса вараная | 845—1 995 | 1 490 |
| каўбаса паўвэнджаная | 1 420—1 854 | 1 590 |
| каўбаса сыравэндж. | 3 200—3 840 | 3 140 |
| **Малочныя прадукты прыватных асоб** | | |
| малако | 200—250 | |
| тварог | 800—900 | |
| смятана | 600—800 | |
| Масла жывёльнае | 1 300—1 500 | |
| **Яйка** (дзес.) | 340—479 | 441 |
| **Мёд** | 2 500—4 000 | 2420 |
| **Алей** | 510—950 | |
| **Крупы** | | |
| рыс | 360—450 | 480 |
| грэцкія | 550—600 | 708 |
| проса | 200—205 | 234 |
| манна | 285— 290 | 369 |
| гарох | 235—235 | 254 |
| **Макаронныя вырабы** | 200—340 | 286 |
| **Цукар** | 245—300 | 250 |
| **Мука в/г** | 170—260 | 215 |
| **Фасоля** | 350—350 | |
| **Кветкі** | | |
| ружа | 400—1 600 | |
| гваздзікі | 150—170 | |
| **Селядзец салёны** | 580—620 | |
| **Рыба марожаная** | 670—1 600 | |

## КУРС ВАЛЮТ

| | Пакупка | Продаж |
|---|---|---|
| Расійскі рубель | 27.00 | 30.00 |
| Долар ЗША | 860.00 | 880.00 |

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых у студзені 2000 года склала 38 734 рублі (у снежні 1999 года была 36 894 дэнамінаваныя рублі).**

## КОРАТКА

ПІК ЭПІДЭМІІ ГРЫПУ БЕЛАРУССЮ ЎЖО ПРОЙДЗЕНЫ. У яе аказаліся ўцягнутымі 287 тысяч беларусаў. 41 працэнт тых, хто захварэў, складаюць дзеці да 14 гадоў. А ў бальнічныя ўстановы з рознымі ўскладненнямі ад перанесенай хваробы трапілі за гэты час каля дзвюх тысяч чалавек ( з іх 1 300 дзяцей).

## МЕРКАВАННЕ

# КРЭДЫТ ДАВЕРУ

Цяпер, здаецца, мінуў той час, калі жыхары рэспублікі насцярожана ставіліся да магчымасці пакідаць свае грошы на ашчадных кніжках.

Бяспеку такіх аперацый абгрунтавала на прэс-канферэнцыі і старшыня праўлення "Беларусбанка" Надзея Ермакова, якая расказала пра новае ў абароне ўкладаў насельніцтва. Яна адзначыла, што самая вялікая стаўка — 145 працэнтаў гадавых — магчымая пры захоўванні грошай у банку на працягу дзесяці гадоў, а найбольшым попытам карыстаюцца ўклады на 3 і 12 месяцаў. Нягледзячы на нестабільнасць беларускага рубля і інфляцыю, колькасць жадаючых пакласці грошы ва ўрадавы "Беларусбанк" павялічваецца. Як адзначыла Надзея Ермакова, сёння "Беларусбанк" мае магчымасць прапанаваць насельніцтву 18 відаў рублёвых і 15 відаў валютных укладаў. Яна запэўніла, што ўклады забяспечваюцца капіталам банка, гарантыямі дзяржавы ў адпаведнасці з пастановай урада, а таксама каштоўнымі паперамі.

"Беларусбанк" выкарыстоўвае ўсе магчымасці, каб прыцягнуць грашовыя сродкі ў эканоміку рэспублікі. Вялікая роля адводзіцца прадстаўніцтвам у Расіі і Польшчы, што дазваляе павялічыць колькасць магчымых інвестараў. Такім чынам, праз "Беларусбанк" ідзе фінансаванне некаторых прадпрыемстваў, сярод іх "Гомельдрэў" і "Белмедпрэпараты".

Аднак рэалізацыя дзяржаўных праграм складаецца не толькі са знешніх інвестыцый. Банк ажыццяўляе крэдытаванне жыллёвага будаўніцтва. Такім чынам за чатыры апошнія гады было ўведзена 1 232 шматпавярховыя і 5 312 індывідуальных будынкаў. Жыллё атрымалі каля 55 тысяч сямей.

Арганізацыю справы ў "Беларусбанку" правяралі міжнародныя эксперты. Яны адзначылі высокі рэйтынг дзейнасці гэтай установы. Па апытаннях насельніцтва, "Беларусбанку" прадастаўляе крэдыт даверу большасць жыхароў рэспублікі.

**Вітаўт ДАШУК.**



**Пад назвай "Нясумная малінаўка" прайшла для школьнікаў мікрараёнаў Малінаўка і Паўднёвы Захад "Зімовая спартакіяда-2000". Яе арганізатарам стаў маладзёжны сацыяльны цэнтр "Майстэрня будучыні".**

**У нядзельны марозны дзянёк на школьным катку адбыліся забегі канькабежцаў, а затым прайшлі хакейныя матчы дваровых каманд. У школьных залах у гэты час праходзілі конкурс малюнка, шашачны турнір, спартландыя, спаборніцтвы "Мама, тата, я — спартыўная сям'я", канцэртная праграма. Усім было весела, цікава. Самыя спартыўныя, смелыя, спрытныя ўдзельнікі спартакіяды атрымалі прызы, а астатнім дасталіся ва ўзнагароду вяселле, цудоўны настрой, бадзёрасць.**

**НА ЗДЫМКУ: дваровыя каманды хакеістаў мікрараёна Паўднёвы Захад і Малінаўка".**

**Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА.**

## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

**ЗЛУЧАНАСЦЬ МУЗЫКІ, ФАРБАЎ І ПАЭЗІІ.** У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі прайшло свята з нагоды 82-х угодкаў з дня аднаўлення літоўскай дзяржаўнасці. Сюды было запрошана шмат гасцей: пасол Літвы ў Беларусі Йонас Паслаўскас, беларускія пісьменнікі, студэнты ВНУ, вучні мінскіх школ і мы, навучэнцы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа № 1.

Адкрыла і вяла свята намеснік старшыні прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніна Іванова.

Кожная краіна мае сваіх знакамітасцей. Менавіта такім духоўным грунтам Літвы з'яўляецца М. Чурлёніс — сусветна вядомы пісьменнік, кампазітар, мастак. "Яго жывапіс музычны, а музычныя творы — жывапісныя", — так гавораць даследчыкі пра творчасць М. Чурлёніса.

З цікавым паведамленнем пра жыццё і творчасць М. Чурлёніса выступіла Валянціна Майсеенка — дырэктар Віцебскага культурна-інфармацыйнага цэнтра "Скарбы свету".

Пра свет музыкі М. Чурлёніса расказала студэнтка Беларускай акадэміі музыкі Людміла Чабатарова. Лаўрэат міжнародных музычных конкурсаў Расціслаў Крымер выканаў дзве прэлюдыі з твораў Чурлёніса.

Нас і ўсіх, хто быў на вечарыне, уразіла выстава рэпрадукцый з карцін мастака "Любоў — гэта белыя моцныя крылы", падрыхтаваная Віцебскім культурна-інфармацыйным цэнтрам. Усхваляваў цыкл гравюр М. Чурлёніса "Стварэнне сусвету", карціна "Хрыстос у пустыні".

У верасні 2000 года мастацкі свет будзе адзначаць 125-годдзе з дня нараджэння М. Чурлёніса.

**Наталля ДРАБЕНЯ,**
**Таццяна ЖУРЫК.**

## ЗДАРЭННІ

**ДЛЯ НЕЛЕГАЛЬНАГА ПЕРАСЯЧЭННЯ МЯЖЫ ПАРУШАЛЬНІКІ ВЫКАРЫСТАЛІ ТРАКТАР.** На ўчастку Пінскага пагранічнага атрада пры спробе перайсці мяжу ў недазволеным месцы беларускімі пагранічнікамі затрыманы грамадзянін Беларусі і грамадзянін Грузіі, якія на трактары з прычэпам спрабавалі правезці ў Беларусь некалькі тон цукру, мукі, збожжа і алею .

Як паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў рэспублікі, парушальнікі, груз і транспарт перададзены праваахоўным органам.

У пагранічным ведамстве таксама адзначылі, што пагранічнікі Лідскага атрада ў непасрэднай блізкасці ад мяжы знайшлі склад, дзе захоўвалася больш за 100 мяшкоў цукру і некалькі соцень літраў брагі для вырабу самагону. Лідская міліцыя пачала пошук уладальнікаў нелегальнай самагоннай вытворчасці.

## АХОВА ЗДАРОЎЯ



**Новая ўчастковая бальніца на 25 ложкаў адкрылася ў пасёлку Янушкавічы Лагойскага раёна. Яна аснашчана ўсім неабходным для лячэння хворых.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## СІТУАЦЫЯ

# «ДЗІКАЕ ПАЛЯВАННЕ» ПОЛЬСКІХ ПАГРАНІЧНІКАЎ

На тэрыторыі Польшчы адбыўся чарговы інцыдэнт з беларускімі грамадзянамі. І менавіта паўтаральнасць недружалюбных дзеянняў прадстаўнікоў польскіх улад да нашых грамадзян (успомнім жнівеньскую аблаву на варшаўскім рынку) наводзіць на пэўныя вывады...

Але напачатку прывядзём факты.

Іх паведаміў нам віцэ-консул беларускага консульства ў Беластоку Павел Латушка.

13 лютага на рынку горада Гіжыцка Варміньска-Мазурскага ваяводства польскай пагранічнай службай і паліцыяй была праведзена акцыя па выяўленню нелегальнага гандлю. У выніку было затрымана 79 чалавек, з іх 75 — грамадзяне Беларусі, 2 — Літоўскай Рэспублікі і 2 — Расіі. У 47 беларусаў былі канфіскаваны дакументы, і з гэтай хвіліны для іх пачаліся няшчасці.

Толькі на наступныя суткі затрыманыя змаглі звярнуцца ў сваё консульства ў Беластоку. Нашы дыпламаты адразу адправіліся на сустрэчу з камендантам пагранічнай службы. Затым звязаліся з дырэктарам аддзела грамадзянскіх спраў ваяводскага ўпраўлення, які ад імя ваяводы прымаў рашэнні аб выдварэнні.

Было ўстаноўлена, што ў адносінах да нашых грамадзян былі выкарыстаны лжывыя звесткі, абгавор, а таксама тварылася часткова і недапушчальнае самавольства. Напрыклад, трох жыхароў Гродна, урачоў па прафесіі, схапілі толькі за тое, што яны праязджалі на сваёй машыне па рынку. У выніку ў адносінах да 37 чалавек прадстаўленне пагранічнікаў аб выдварэнні было адхілена. Ім вярнулі пашпарты і прынеслі прабачэнні. Цікавая дэталь: як заўважыў Павел Латушка, нават прадстаўнік ваяводства быў здзіўлены, мякка кажучы, некампетэнтнасцю пагранічнікаў.

Тыя дзесяць грамадзян, у адносінах да якіх пагроза выдварэння засталася ў сіле, падалі заявы на імя міністра ўнутраных спраў Польшчы. Яны збіраюцца адстойваць свае правы, і генеральнае консульства ў Беластоку акажа ім у гэтым усякае садзейнічанне.

Як паведаміў прэс-сакратар знешнепалітычнага ведамства Беларусі Мікалай Барысевіч, пасол Польшчы быў выкліканы ў Міністэрства замежных спраў, дзе яму перададзена нота пратэсту.

**Ніна РАМАНАВА. "СБ".**

**АСОБА**

● **Наталля ГРЫШАКОВА.**

# МЕЦЭНАТ МІХАІЛ РАСОЛАЎ

Неяк набыла ў магазіне кнігу "Дерево добра и зла" Міхаіла Расолава. Прыцягнула яна маю ўвагу высокім мастацкім і паліграфічным афармленнем. Разгарнула першую старонку, і адразу кінулася ў вочы кароценькае паведамленне, якое папярэднічала ўступу да кнігі: "Сродкі ад рэалізацыі кнігі накіроўваюцца на падтрымку вучняў Ціхініцкай сярэдняй школы Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС".

Часта ў думках вярталася я да прыпіскі наконт ганарару, які Міхаіл Міхайлавіч абяцаў перадаць вучням сельскай школы. З фотаздымка, змешчанага ў кнізе, на мяне глядзеў маладжавы, інтэлігентнага выгляду чалавек з адкрытым добрым тварам. Мецэнат Расолаў быў зусім непадобны на знакамітага мецэната Дзямідава з масфільмаўскай кінастужкі. Але ён зусім не прайграваў уральскаму багацею.

Захацелася больш даведацца пра нашага беларускага мецэната. Набралася смеласці і пайшла ў выдавецтва "Універсітэцкае", у якім выйшла кніга М. Расолава, — можа там дапамогуць мне ў гэтым.

Прызнацца, у такую ўдачу нават не паверыла адразу. Мне паказалі тры салідныя тамы выбраных твораў Міхаіла Расолава, якія аўтар падарыў выдавецтву ў час наведання ім Мінска, а таксама пісьмо дырэктара Ціхініцкай сярэдняй школы Людмілы Гулевіч і два вершы настаўнікаў гэтай школы — Паліны Кавалёвай і Вольгі Клімковай, прысвечаныя М. Расолаву. Людміла Аляксандраўна прасіла журналістаў выдавецтва знайсці магчымасць расказаць на старонках перыядычнага друку пра іх былога вучня — выпускніка 1966 года, а зараз — прафесара, пісьменніка, грамадскага дзеяча, цудоўнага чалавека, які вельмі многа зрабіў і робіць для сваёй школы, малой радзімы, хаця жыве ў Маскве.

Згадзіцеся, не часта настаўнікі пішуць удзячныя пісьмы ў адрас сваіх вучняў, тым больш прысвячаюць ім вершы. Хутчэй наадварот — робяць гэта вучні, выказваючы сваім выхавацелям шчырую ўдзячнасць за атрыманыя веды, клопат і спагаду. Але, як бачым, бываюць і выключэнні з гэтых правіл. Міхаіл Міхайлавіч заслужыў любоў і павагу землякоў, шырокай грамадскасці Беларусі, Расіі сваімі высакароднымі ўчынкамі, талентам, шматлікімі навуковымі працамі па юрыспрудэнцыі. З'яўляючыся доўгі час намеснікам старшыні Вышэйшай кваліфікацыйнай камісіі па зацвярджэнню доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый, М. Расолаў заўсёды дбаў пра тое, каб у вялікую навуку ішлі маладыя здольныя людзі, у тым ліку з роднай яму Беларусі.

Як уласную бяду ўспрыняў Міхаіл Міхайлавіч вестку пра чарнобыльскую катастрофу, якая не мінула і Ціхінічаў, дзе жывуць яго маці, родныя, блізкія. Нягледзячы на высокае радыяцыйнае забруджанне мясцовасці, ён рэгулярна прыязджае ў сваю вёску. Замервае радыяцыйны фон, дзеліцца з землякамі весткамі, пачэрпнутымі ў час сустрэч з вядомымі маскоўскімі і зарубежнымі радыёлагамі, хімікамі, урачамі.

Разумеючы, што дзяржава не можа пакуль выдзяляць дастаткова сродкаў на ліквідацыю вынікаў Чарнобыля, Міхаіл Міхайлавіч доўгімі начамі думаў, як дапамагчы людзям, якія падвергліся радыяцыйнай атацы, усяліць у іх душы аптымізм, веру, надзею. З поўнага адабрэння жонкі і сына Іллі, які не раз суправаджаў бацьку ў паездках па Рагачоўшчыне, вырашыў перадаваць на патрэбы сваіх землякоў сродкі, атрыманыя ад рэалізацыі ўласных кніг.

Тут самы раз коратка пазнаёміць чытача з пісьменнікам Расолавым. Пачынаў у маладосці з вершаў, але стаў празаікам, перадаўшы гены вершатворцы сыну Іллю. Дарэчы, пачынаючы філосаф і паэт малодшы Расолаў ужо паспеў выдаць першую сваю кнігу вершаў, якая стала падзеяй у літаратурным жыцці Масквы.

Першая аповесць Міхаіла Расолава "Не убий" стала стартавай пляцоўкай для стварэння раманаў "Исполнитель", "Трудное перепутье". Затым убачылі свет зборнік апавяданняў і навел "Дерево добра и зла", тры тамы выбраных твораў.

"Што сказаць аб творчасці Міхаіла Расолава? — разважае ў сваёй прадмове да першага тома выбраных твораў сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі Сяргей Есін. — Калі падысці да гэтага з пазіцыі класікі, ёсць і агрэхі, не заўсёды ляціць слова, не заўсёды жывы вобраз. Але ж ёсць адно, што аб'ядноўвае ўсіх — і класіку, ды і лепшую частку рускай літаратуры — гэта надзвычайная сацыяльнасць. Не сакрэт, што сацыяльнасць руская літаратура і вынесла ў літаратуру сусветную. Таму амаль кожны раман гэтай літаратуры — люстэрка часу, сведчанне эпохі і старонка нашай гісторыі".

Пісьменнік мае права на такія ацэнкі творчасці іншага творцы. Мне ж асабіста здаецца, што менавіта высокая сацыяльнасць, разуменне гісторыі ўчарашняга, сённяшняга дня і дня будучага зрабіла пісьменніка Міхаіла Расолава мецэнатам у самым лепшым сэнсе гэтага слова. Ён сабраў і перадаў Ціхініцкай СШ больш як 300 твораў жывапісу і графікі вядомых рускіх і беларускіх мастакоў. Частку твораў перадалі бясплатна яго сябры, большасць набыў Міхаіл Міхайлавіч на ўласныя сродкі. Так нарадзілася ў Ціхінічах школьная карцінная галерэя, пазнаёміцца з якой прыязджаюць штогод тысячы людзей з розных куткоў Беларусі, блізкага і далёкага замежжа. Многія даведаліся пра "ціхініцкі Эрмітаж", азнаёміўшыся з кнігай "Вдохновение", якую выпусціла маскоўскае выдавецтва "Икар".

Значную частку палотнаў перадаў М. Расолаў Рагачоўскаму краязнаўчаму музею. На сродкі, атрыманыя ад продажу напісаных Міхаілам Міхайлавічам кніг, было куплена абсталяванне для лінгафоннага кабінета ў яго роднай школе. А яшчэ... пабудаваны храм Святога Архістраціга Міхаіла. 21 лістапада 1997 года, у дзень памяці славутага старца, царква была асвячона. Па даручэнню Свяцейшага патрыярха ўсяе Русі Аляксія II епіскап Гомельскі і Жлобінскі Арыстарх адслужыў урачысты малебен з нагоды адкрыцця храма, уручыў Міхаілу Расолаву ордэн святога роўнаапостальскага князя Уладзіміра.

Народны мастак СССР У. Стальмашонак перадаў царкве ў падарунак свае працы — іконы святых Кірылы і Мяфодзія і Ефрасінні Полацкай. Міхаіл Міхайлавіч падарыў храму работы маскоўскага мастака У. Волкава — іконы Хрыста-Выратавальніка, Багародзіцы і святога Архістраціга Міхаіла.

У знак удзячнасці за падзвіжніцкую работу свайго славутага земляка педагагічны калектыў Ціхініцкай СШ выступіў перад кіраўніцтвам краіны з хадайніцтвам аб узнагароджанні Міхаіла Расолава медалём Францішка Скарыны. Просьба знайшла падтрымку. За вялікі ўклад у развіццё беларускай культуры М. Расолаў быў удастоены прэміі "За духоўнае адраджэнне" і звання "Чалавек года". Атрыманае грашовае ўзнагароджанне Расолаў перадаў на патрэбы СШ № 1 горада Рагачова ў сувязі з пераходам яе ў вышэйшы статус — гімназію.

Сярод шматлікіх планаў нашага славутага земляка — будаўніцтва бальніцы на сваёй радзіме. Задума неўзабаве матэрыялізуецца. "Сродкі ад рэалізацыі выдання накіроўваюцца аўтарам на будаўніцтва ўчастковай бальніцы ў вёсцы Ціхінічы Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці Рэспублікі Беларусь", — напісана на тытульным лісце рамана "Августовский звездопад", якім адкрываецца першы том выбраных твораў М. Расолава. Ажыццявіла выпуск трохтомніка маскоўскае выдавецтва "Русский двор".

У прадмове да гэтага выдання Сяргей Есін, якога мы цытавалі вышэй, выказаў слушную думку, да якой варта было б прыслухацца многім. "Багатых людзей (хаця Расолава наўрад ці назавеш багатым) у нас быццам бы ўжо і многа, — піша ён, — а вось учынкаў мала".

Учынак Міхаіла Расолава — прыклад для пераймання. І не толькі з боку багатых людзей, але і ўсіх, хто мог бы падзяліцца нават невялікімі сумамі з тымі, каму жывецца сёння асабліва цяжка: з хворымі, адзінокімі, зрабіць нешта добрае для садзіка, школы, прадпрыемства, падтрымаць талент. У цэлым жа ад гэтага выйграла б усё наша грамадства. А каб мае словы не былі толькі заклікам — прашу рэдакцыю пасля апублікавання гэтага артыкула перавесці мой ганарар на рахунак участковай бальніцы, якая ўзводзіцца ў вёсцы Ціхінічы.

**ЮБІЛЕІ**




**НОВЫЯ ВЕРШЫ Генадзя АЎЛАСЕНКІ**

## СПОВЕДЗЬ

**Шукаў жыццёвы шлях...**
**А можа**
**шлях да Бога!**
**Вучыўся ўсё жыццё,**
**ды не таму, відаць...**
**І зразумеў,**
**што я**
**не зразумеў нічога,**
**што, чым вышэй узлёт,**
**тым горш зямлю відаць...**
**Я зразумеў, што жыў**
**у нейкім дзіўным гроце,**
**дзе ўсё, і нават столь,**
**з крыштальнага ільду...**
**А можа ўсё жыццё**
**я йшоў па тонкім дроце**
**І позна зразумеў,**
**што не ў той бок іду...**
**Я нейкі шлях шукаў...**
**Да ведаў быў ахвочы...**
**Вучыўся ўсё жыццё...**
**Ды зразумеў адно:**
**што лепей прамаўчаць,**
**чым рэзаць праўду ў вочы,**
**што зорачкі святло**
**пры сонцы не відно...**
**Я зразумеў, што я**
**не разумеў нічога!**
**Што я,**
**і смех, і грэх,**
**заблытаўся ў жыцці...**
**Што можа ён і ёсць,**
**адзіны шлях да Бога,**
**ды мне яго, на жаль,**
**ніколі не знайсці!**

**Ні аб чым цябе не запытаю...**
**Ты не тая,**
**што была калісьці...**

**Вось ужо і восен**
**замятае сцежкі**
**жоўтым**
**Вось ужо**
**і першы**
**вось ужо**
**зямля зі**
**Ты не тая...**
**Тая**
**І не тая...**
**Ні аб чым цябе н**

**Ні аб чым цябе н**
**Што прайшло,**
**таго не п**
**Я ў твой дом**
**ужо не з**
**мне табе**
**спатканне не**
**Каляндар**
**імкліва а**
**год стары**
**кудысьц**
**Ты не тая...**
**Тая...**
**І не тая...**
**Ні аб чым цябе н**

**Ні аб чым цябе н**
**Гор прыкрай**
**сэрца ко**
**Скончыцца зіма,**
**і снег ра**
**толькі нам**
**не стрэцца**
**Грэшная...**
**чароўна**

**Можа толькі ў с**

**ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ**



**Керамічныя распрацоўкі мастака Мазырскай фабрыкі мастацкіх вырабаў Міхаіла Васькоўскага заўсёды вызначаліся нацыянальным каларытам. У тым жа традыцыйным стылі выкананы і апошнія яго работы да 30-годдзя прадпрыемства.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак па кераміцы Міхаіл ВАСЬКОЎСКІ; апошнія распрацоўкі майстра.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



**95 гадоў назад у Мінску нарадзіўся бу-**
**дучы народны артыст Беларусі і СССР Ула-**
**дзімір Дзядзюшка. Пачынаў сваю сцэніч-**
**ную дзейнасць у Беларускім дзяржаўным**
**андроўным тэатры, у 1937 годзе быў**
**апрошаны ў БДТ-1 (сёння гэта Нацыянальны академічны тэатр імя Я. Купалы), з якім**
**была звязана ўся яго далейшая**
**ворчасць. Уладзімір Іосіфавіч сыграў**
**больш за 100 ролей, стварыў шэраг сцэніч-**
**ных вобразаў па творах "Суд" і "Плытаго-**
**ны" В. Галубка, "Сяржант Дроб" Э. Самуй-**
**ёнка і іншых, ярка паўстаў перад гледа-**
**ом у вобразах кінагерояў "Несцеркі" і**
**Паўлінкі", выступаў у тэлеспектаклях, у**
**ым ліку і па раману І. Мележа "Людзі на**
**алоце".**

**Фота БелТА.**

ь залатая
лісцем...
снег не тае,
іму вітае...
...
не запытаю...
не запытаю...
перайначыць!
завітаю,
е прызначыць!
аблятае,
ці адлятае...
...
не запытаю!
не запытаю!
страт
оле!
,
стане,
больш ніколі!
я...
святая...
он мой
завітаеш...

**Тая што была...**
**І ўжо не тая...**
**Ні аб чым**
**мяне**
**не запытаеш...**

## ЯШЧЭ ДАЛЁКА ДА ВЯСНЫ

**Яшчэ далёка да вясны!**
**Як вежы,**
**гурбы снегавыя,**
**І завіруха**
**ў полі вые...**
**І так далёка да вясны!**

**Яшчэ далёка да вясны!**
**Марозы**
**доўжацца бясконца,**
**І свеціць,**
**ды не грэе сонца...**
**Бо так далёка да вясны!**

**Бо так далёка да вясны!**
**Ад скрухі**
**сэрца халадзее...**
**Ды ў ім**
**жыве яшчэ надзея...**
**Хоць так далёка да вясны!**

**Хоць аб мінулым**
**толькі сны...**
**І хто ж я зараз!!**
**З кім я!!**
**Дзе я!!**

**Не пакідай мяне,**
**надзея!**
**Мы дачакаемся**
**ВЯСНЫ!**



**СУЛАДДЗЕ ЧАСОЎ**

# ПРА ШКОЛУ, ЯКОЙ 500 ГАДОЎ

Ад аўтобуснага прыпынку гарадскога пасёлка Відзы, што на Браслаўшчыне, да школы шлях няблізкі. І дарога не самая лепшая: пакуль "дашлёпала", дзве машыны паспелі апырскаць. Але вось і яна — Відзаўская сярэдняя агульнаадукацыйная школа. Будынак невялікі, двухпавярховы, пабелка, відаць, нядаўняя. У двары яшчэ трымаліся апошнія восеньскія кветкі. Клапатлівыя рукі дзяцей і настаўнікаў вырасцілі іх сабе на радасць, людзям — на здзіўленне. Школьны двор з усіх бакоў абступілі розныя пабудовы: сталовая, памяшканне для малодшых класаў, а ў самым цэнтры... калодзеж. Зразумела, не для прыгажосці яго тут выкапалі. Пазней дырэктар пацвердзіў мае здагадкі аб праблемах з вадой. У школьных кранах яе можа і не быць, тады дапамагае калодзеж.

Лесвіца на другі паверх пачынаецца літаральна ад самага парога. Вучні сказалі, што і кабінет дырэктара, і настаўніцкая "ўверсе". Сцены ўпрыгожаны майстэрскі зробленымі дэкаратыўнымі кампазіцыямі. Іх многа, але падобных адна на адну няма. Праўда, усё ўражанне псуюць печы. Хаця асаблівa я і не здзівілася: ужо бачыла школы з такім жа ацяпленнем. І ўсё ж зрабілася неяк прыкра: у наш прагрэсіўны век насіць бярэмямі дровы, каб сагрэць дзяцей у час заняткаў.

Дырэктара, Сяргея Алёшына, сустрэла ў класе інфарматыкі:

— Сваёй гісторыяй мы ганарымся, яна ў нас сапраўды шматвяковая. Толькі не трэба блытаць 500-годдзе заснавання школы з узростам гэтага будынка, які паставілі ў 1953-м. А сама школа як парафіяльная, сапраўды, заснавана ў 1498 годзе.

Дырэктарам Сяргей Васільевіч назначаны нядаўна. Клопатаў у яго хапае: 374 вучні, а памяшканне невялікае і без зручнасцей. Малодшыя класы наведаюць заняткі ў другую змену. Ёсць такія, каму далёка дабірацца. Але іх падвозяць на калгасным аўтобусе. Увосень старшыя класы працуюць у калгасе на ўборцы бульбы, буракоў. А прапушчаныя ўрокі "наганяюць" падчас на працягу навучальнага года. У сваю чаргу, і калгас "Уперад" дапамагае школе па меры магчымасцей: то прадукты падвязуць, то адрамантуюць тое-сёе.

Не засталася Відзаўская школа ўбаку і ад сучасных адукацыйных павеваў: некаторыя прадметы тут вывучаюцца па жаданню вучняў глыбей.

— Я сам настаўнік інфарматыкі і хацеў бы, каб гэты прадмет вывучалі грунтоўна. Але...

Дырэктар выразна глянуў на клас, дзе стаялі старэнькія камп'ютэры "Карветы". Так, на такіх машынах далёка "не заедзеш". Можа, малышам больш пашанцуе: пакуль яны падрастуць, з'явіцца новая тэхніка...

— А пакуль з дапамогай псіхолага мы "развіваемся, гуляючы". Гэта праграма, дзякуючы якой можна прывіць дзецям цікавасць да якога-небудзь занятку, дапамагчы як мага больш даведацца. Акрамя абавязковай замежнай мовы, факультатыўна вывучаецца польская. І жадаючых займацца хоць адбаўляй, нават першакласнікі просяцца.

Я пазнаёмілася з настаўніцай малодшых класаў і па сумяшчальніцтву выкладчыцай польскай мовы Галінай Гайдамовіч. Яна не спецыяліст у мовазнаўстве, па ўласным жаданні вывучыла мову суседзяў. І дала такую магчымасць дзецям, узяўшыся за цяжкую працу.

Клас польскай мовы такі ж невялікі, з печкай, як і іншыя. На сцяне прыгожа аформленыя стэнды. На адным з іх — здымкі ансамбля танца "Польскія кветкі", створанага ў школе, на іншым — школьныя спартсмены. Наведваюць школу і госці з Польшчы. Нават польскае тэлебачанне неяк прыехала здымаць перадачу.

Яшчэ мяне зацікавіла адно незвычайнае выхаваўчае звяно — асацыяцыя "Садружнасць". Сюды на роўных уваходзяць бацькі, вучні і настаўнікі. Асацыяцыя яшчэ зусім маладая — у верасні ёй споўніўся год. Чытаю: "Галоўныя правілы "Садружнасці" — павага адзін да аднаго, узаемаразуменне, працалюбства, творчасць, дапамога тым, хто побач". Уражвае. Ці правільным шляхам ідзе асацыяцыя, час пакажа. Але яе структура заслугоўвае ўвагі. На самым версе — канферэнцыя, якой падпарадкоўваецца агульнашкольны парламент. Незалежны прэсцэнтр трымае ўсю інфармацыю. Пра справы навучэнцаў, педагогаў і бацькоў, якія складаюць асобныя аб'яднанні, савет класа "дакладвае" "савету міністраў". Так на ўзроўні невялікай школы склалася цэлая дзяржава. Аднак не варта думаць, што ў школе адно толькі трымаюць справаздачы ды "зубраць" урокі. Не. Дзейнасць асацыяцыі, у першую чаргу, пазнавальна-інтэлектуальная і па інтарэсах. Каму хочацца пець — пяюць, каму — іграць на сцэне — іграюць, а калі нехта марыць зрабіцца футбалістам — калі ласка, толькі рады.

Чым займаюцца дзеці з турыстычнага гуртка, я пабачыла сама. Летам яны раскопваюць курганы, даследуюць прыроду свайго раёна. Дарэчы, знаходзяць цікавыя экспанаты. Гляджу на адзін з фотаздымкаў: задаволены, загарэлы хлопец з гонарам глядзіць на раскладзеныя чарапкі... Такая практыка дзецям падабаецца. Гэта не буракі палоць...

У бліжэйшы час у школе плануюць адкрыць свой гістарычны музей.

Але і праблем тут хапае: тое ж пячное ацяпленне, сталовая ў асобным будынку, маленькая спортзала... Калі вясной і ў пачатку восені яшчэ можна займацца на стадыёне, то зімой з фізкультурай проста бяда. Перашкаджаюць і цесната, і беднасць інвентару. Яшчэ ў 1989 годзе абяцалі пабуаваць у Відзах сучасную школу, як гавораць, з усімі зручнасцямі. Але пачалася "перабудова", і новае памяшканне засталося блакітнай марай.

І ўсё ж такі цяжка паверыць у 500-гадовы с хвосцікам узрост школы. Уявіце, колькі выпускнікоў дала яна за гэтыя гады! Сёння з 41 настаўніка каля 30 — свае, відзаўскія.

А сяброў у школы яшчэ больш, чым выпускнікоў. Ведаючы, як цяжка цяпер што-небудзь прыдбаць, на юбілей школе яны падарылі тэлевізар, музыкальныя цэнтры, відэамагнітафон, іншыя карысныя рэчы.

...На двары зноў ішоў дождж. Насустрач мне — хлопчык. Мокры і... шчаслівы. Ён бег у школу.

**Таццяна ЯКУБЯНЕЦ.**

# У МІНСКУ ПРАДАЕЦЦА АЎТАМАБІЛЬ МАРШАЛА РАКАСОЎСКАГА – «ШЭЎРАЛЕ» ЎЗОРУ 1937 ГОДА

У Мінску аб'яўлена аб продажы аўтамабіля "Шэўрале — Дывізіён — Карэспандэнт — Фліп — Майстар" узору 1937 года, які некалі належаў вядомаму савецкаму военачальніку, двойчы Герою Савецкага Саюза, маршалу СССР і Польшчы Канстанціну Ракасоўскаму.

Як паведаміў цяперашні ўладальнік аўтамабіля, яго "Шэўрале", сабраны на аднайменнай лініі дэтройцкага прадпрыемства "Джэнерал Мотарс", мае канвеерны нумар 7 і прыбыў у СССР са Злучаных Штатаў Амерыкі ў лістападзе 1941 года ў рамках саюзніцкай дапамогі амерыканскага ўрада. З 1941 па 1947 год "Шэўрале" быў персанальным аўтамабілем маршала Ракасоўскага, а затым перададзены ў якасці падарунка прыватнай асобе — былому вадзіцелю маршала.

Як сведчаць дакументы і элементы некаторага абсталявання аўтамабіля, "Шэўрале" быў спецыяльна створаны для арміі. У прыватнасці, ён мае браніраваныя часткі, днішча.

Па словах цяперашняга ўладальніка, які купіў аўто ў 1978 годзе, "Шэўрале" і да гэтага часу мае добрыя хадавыя якасці і забяспечвае хуткасць да 130 міль у гадзіну (прыкладна 215 кіламетраў у гадзіну). "Няроднымі" з'яўляюцца толькі шыны колаў і электраабсталяванне.

У свой час аўтамабіль актыўна і за высокі кошт арэндавалі кінастудыі СССР. У прыватнасці, "Шэўрале" "зняўся" ў славутым савецкім серыяле "Семнаццаць імгненняў вясны", дзе на ім раз'язджаў амерыканскі разведчык А. Далес.

**СА СКАРБАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ**

Толькі што выйшла з друку кніга беларускага даследчыка, які жыве і працуе ў Варшаве, Юрася Гарбінскага. Гэта сапраўды грунтоўнае, унікальнае даследаванне — адно з найбольш значных беларускамоўных, якім нашы навукоўцы пакідаюць значны след у ХХ стагоддзі і, будзем спадзявацца, плённа падоўжаць яго ў наступным ХХІ. У Юрася на гэты конт шмат аптымізму: праца над папярэдняй, таксама грунтоўнай кнігай, прысвечанай станаўленню беларускай нацыянальнай ідэі ў шырокім грамадскім кантэксце, з'явілася своеасаблівай разведкай таго, што мы маем, але яшчэ не ўвялі ў навуковы ўжытак, што не паспелі па-належнаму асэнсаваць. Як бачым, "атака" на замежныя архівы, знаёмства з напісанымі на іншых мовах працамі па беларусіцы прыняла для нашай навукі і нацыянальнай свядомасці ў нейкай ступені нават нечаканы вынік: дзве грунтоўныя манаграфіі. Улічыўшы ж тое, што перад намі малады па ўзросце навуковец ды такі апантаны пошукам, такі эмацыянальна акрылёны, непасрэдны і шчыры ў кантактаванні з людзьмі, сімпатычны чалавек, што, заўважым, не ёсць справай нейтральнай там, дзе трэба ісці па навуковай цаліне, ездзіць па замежжы, наладжваць знаёмствы, мець доступ да архіўных матэрыялаў — з улікам усяго сказанага можна толькі парадавацца яго ўдачы ды пажадаць новых знаходак і адкрыццяў, нават трэцяй па ліку кнігі, а потым — яшчэ і яшчэ...

Пра гэтую, напэўна, шмат з'явіцца як рэцэнзій, так і грунтоўных артыкулаў. Таму, што ў рэдакцыю "Голасу Радзімы" паступілі адразу два водгукі — Уладзіміра Бузука і Ларысы Языковіч, — можна толькі парадавацца. Сёння пазнаёмім вас, шаноўны чытач, з адным з іх.

**Яўген ЛЕЦКА.**

ГАРБІНСКІ Ю. БЕЛАРУСКІЯ РЭЛІГІЙНЫЯ ДЗЕЯЧЫ ХХ СТАГОДДЗЯ. НАВУК.-РЭД. САВЕТ: У. КОНАН, А. МАЛЬДЗІС, Л. УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК — МІНСК; МЮНХЕН: "БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР", 1999. 752 С., ІЛ.

Кніга Юрыя Гарбінскага выйшла ў свет пад грыфам Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны і навуковай рэдакцыяй вядомых даследчыкаў нацыянальнай культуры. Гэта першы ў нас і ў свеце энцыклапедычны даведнік, прысвечаны дзеячам Праваслаўнай царквы, Каталіцкага касцёла як на Беларусі, так і ў замежжы. Ёсць тут біяграфічныя даведкі і пра вядомых святароў пратэстанцкіх канфесій. Кніга складаецца з прадмовы аўтара-складальніка, персаналій, сістэматызаваных па энцыклапедычнаму (алфавітнаму) прынцыпу, публікацыі унікальных крыніц (успамінаў, нарысаў, архіўных матэрыялаў), на падставе якіх (і шмат якіх іншых) пісаўся гэты даведнік, факсімільнага ўзнаўлення дакументаў, што адлюстроўваюць жыццё і рэлігійна-асветніцкую дзейнасць святароў, тэолагаў, іншых дзеячаў царквы. Большасць гэтых крыніц публікуецца ўпершыню. Кніга заканчваецца пасляслоўем — аналітычна-публіцыстычным артыкулам навуковага рэдактара кнігі доктара філасофскіх навук Уладзіміра Конана.

Персаналіі складзены на тых дзеячаў Касцёла і Царквы, якія праз хрысціянскую веру і грамадзянскае сумленне далучыліся да кантэксту роднай мовы і культурнай традыцыі беларусаў, сталі актыўнымі ўдзельнікамі або спагадлівымі добразычліўцамі беларускага нацыянальнага Адраджэння. Акрамя беларусаў, такімі былі таксама велікадушныя і па-грамадзянску смелыя прадстаўнікі польскага, украінскага, рускага, літоўскага і іншых народаў. Шмат хто з іх аддаў вялікай справе вяртання Беларусі ў гісторыю ўсе свае сілы, здароўе і нават жыццё. Сярод іх — не толькі сёння добра вядомыя імёны (Фабіян Абрантовіч, Вацлаў Аношка, Аляксандр Астрамовіч, праваслаўны архіепіскап Афанасій-Мартыс, епіскап Мелхіседэк і шмат іншых), але і тыя, хто рэдка ўпамінаецца ў даследаваннях альбо даўно забыты. Ёсць і тыя, хто сёння плённа служыць Богу і народу.

Кніга, такім чынам, — не толькі энцыклапедычны даведнік, але і своеасаблівы мемарыял, агульны помнік беларускім пакутнікам за Веру і Бацькаўшчыну.

Добрую справу здзейсніў спадар Гарбінскі: кажучы словамі Францішка Скарыны, выдаў кнігу "Богу ко чці і людзям паспалітым к добраму навучанню". Аўтар кнігі бачыць у ёй пачатак больш універсальных, калектыўных выданняў у гэтым жанры. Няхай не крыўдзяцца тыя руплiўцы, якія сёння шчыруюць у Хрыстовым Вінаградніку. Аднаму аўтару не ахапіць праблему цалкам. Прыходзіць час, калі яна становіцца справай калектыўнага даследавання.

**Уладзімір БУЗУК.**

## З ПОШТЫ Яўгена ЛЕЦКІ

### КАНАДА

Хачу Вам выказаць сваю ўдзячнасць за кнігу К. Тарасава "Беларусь", якую Вы мне прыслалі. Вельмі грунтоўная зместам, цудоўны мастацкі выгляд яе, як і ранейшай кнігі У. Арлова "Адкуль наш род". Сапраўды вы мяне парадавалі. Віншую і Вас, дарагі спадару, бо, як я арыентуюся, у вельмі многім і Вы спрычыніліся да іх публікацыі. Як выглядае сітуацыя з "Энцыклапедыяй гісторыі Беларусі"? Маю чатыры тамы, ці ёсць надзея, што будзе выдавацца далей?

З глыбокай пашанай і ўдзячнасцю

**М. ПАШКЕВІЧ.**

### БЕЛЬГІЯ

..."Голас Радзімы" чытаю рэгулярна, асабліва вашыя артыкулы... Перасылаю ўсім найлепшыя пажаданні... Жыве Беларусь!

З глыбокай пашанай

**Янка ЖУЧКА.**

**P.S.** Вашы прывітанні й зычанні Клыбіку перадаў. Аб ім у адным з апошніх нумароў "ГР" быў напісаны, ужо другі раз, вельмі ўхвалены артыкул.

### УКРАІНА

"Дзякуй, дзякуй за ўсё: цёплыя словы, запрашэнне, параўнанне з Чазеніяй. Ніколі і ніхто не пісаў пра мяне такія словы... прыемна, але ніякавею, губляюся...

Яўген, ты напішы, ці атрымала газета "Голас Радзімы" мае новыя вершы і (навагоднія) віншаванні. Можа ліст не дайшоў. *(Так, на жаль, рэдакцыя гэта пісьмо не атрымала. —* **Я. Л.**). Я туды сабрала недзе 4—5 вершаў дужа светлых і "палётных". Зараз такіх не пішу. Бывае дужа сумна і адзінока на душы, тады пішу "чорна-белыя" вершы. Я так назвала новы цыкл. Пасылаю адзін "абразчык". Толькі не ўспрымай літаральна: "каханка" — сімвал адсутнасці кахання і чужароднасці. З другога боку аркуша надрукавала светлы верш, каб ты пабачыў кантраст паміж гэтымі вершамі.

Вельмі сумую па сваёй зямлі. Ты не ўсё дакладна напісаў. Я вучылася ў Наваполацку, а нарадзілася ў Полацку — крывічанскай калысцы. Беларуская мова ўнутры мяне гучыць і жыве на нейкім генетычным узроўні, амаль на мяжы з містыкай. Я чую беларускія словы, радкі. Пішу радок за радком амаль без правак, як праваднік, сатворчасць, так дакладна можна сказаць. (Можа калісьці я была Рагнедай?..)

І яшчэ адна важная дэталь. Мае бацькі з вёскі, і я часта бывала там у бабулі з дзядуляй. Расла на "ўлонні прыроды" да першага класа. Упітвала ў сябе ўсё жывое... ніколі не забуду бабуліну калыханку:

Ішоў Бай па сцяне,  
Нёс сямёра лапцей  
І сабе, і жане,  
І дзіцятку па лапцёнку...

Вось яно, народнае, роднае. Ды і маці мая была настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. У мяне заўсёды перад вачыма беларуская класіка... усё не выпадкова.

А вось наконт асяроддзя ў Наваполацку, "Хіміку", літаб'яднанні "Крыніца" — ты слушна заўважыў. Калі б не Арлоў, Баршчэўскі, Лапатка, Аксак, Жарнасек, Сокалаў-Воюш, наўрад бы з мяне выйшла тое, што выйшла (у сэнсе — Іна Снарская з яе беларускімі вершамі ў расійска-украінскім асяроддзі). А як бы мне хацелася рабіць тэлеперадачы на роднай мове. Што ж зробіш. Ва ўсім гэтым жыцці ёсць нейкі вышэйшы сэнс. Мабыць я патрэбна тут, на Украіне, і маё прызначэнне — несці беларускае слова, адкрываць людзям яго непаўторнасць і прыгажосць, ім дагэтуль невядомую.

Вельмі ўдзячная Арловым Валодзі і Валі, яны былі (і ёсць) для мяне ў нейкім вышэйшым сэнсе хроснымі бацькамі, павадырамі і да беларушчыны, і да літаратуры. Дзякуючы Валі Аксак, адкрыўся мой шлях у журналістыку, дзякуючы Уладзіміру Арлову — шлях у літаратуру. Пры нагодзе перадай ім, калі ласка, мае найлепшыя пажаданні і ўдзячнасць.

Не магу не згадаць Рыгора Барадуліна, караля беларускіх паэтаў. Я ўдзячная Богу, што ён звёў мяне з гэтым "чалавечышчам". У нас з Барадуліным добрыя адносіны, ён цэніць мае вершы (лічыць таленавітай паэткай). Ёсць нават верш у яго кнізе "Евангелле ад мамы" пра мяне (ст. 431).

Яўген, даруй, што я нібы хвалюся сваім знаёмствам з Барадуліным і Арловымі. Не, я не хвалюся, а ганаруся (а гэта рознае). Бачыш, у мяне таксама ёсць уласцівасць не ўкладвацца ў аб'ём. Гэта называецца "панесла"... Але калі расказваеш пра набалелае, слова загойвае боль...

На гэтым дазволь развітацца.

З павагай **Іна СНАРСКАЯ.**  
Палтава.

* * *

**Ляціце, вятры, ляціце,**  
**Лавіце мой дом, лавіце.**  
**Я буду ценем**  
**на плячах мяцелі,**  
**А пасля — цішынёй,**  
**Я буду гукам —**  
**Раскіну рукі**  
**Над соннай зямлёй.**  
**Ляціце, вятры, ляціце,**  
**Лавіце мой дом, лавіце.**  
**Я — ваша пяшчота,**  
**У сонечных сотах**  
**Пачуеце голас мой.**  
*Верасень 1999 г.*

*З цыкла*  
*"Чорна-белыя вершы"*

* * *

**Плашч надзела на цела ноч.**  
**Ноч — ня мышка-палёўка,**  
**Дыхаецца нялёгка:**  
**Ноч — чорны крумкач.**

**Крычы не крычы — чужынка,**  
**маўчы,**  
**Перабег, пералёт: з маста**  
**пад лёд,**  
**Ледзяная вада — да вокан**  
**бяда.**

**Да світання — нябесная**  
**манна? —**  
**Мана́. Чужынка я**  
**Была, застануся...**  
**Дзе белы мой бусел?**

**Сялом паляцеў —**  
**Да белай пасцелі,**  
**Да чорнай купелі...**

**Люлі-люлі спявала,**  
**Сынка спавівала,**  
**А цяпер пералёт —**  
**З маста — пад лёд.**

**Да світанку — чужая каханка**  
**Крычу, рагачу...**  
**Чуе мяне толькі ноч**  
**Крумкачовая, злая, сірочая.**

## Алена КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА: РОЗДУМ ПРА ЛЁС БАЦЬКІ

Ёсць асобы, аб якіх ведаюць толькі па легендах. Як правіла, гэта яркія, таленавітыя і мужныя людзі, што прайшлі скрозь агонь, ваду і медныя трубы. Такім быў і мой бацька, Рыгор Кобец. Анархіст, дзянікінец, будзёнавец. Ён жа беларускі драматург, які стаяў ля вытокаў нацыянальнага тэатра і кіно, стварыў сцэнарый сусветна вядомага і адзінага ў свеце фільма аб будаўніцтве Бірабіджана "Шукальнікі шчасця" (які перажыў свайго аўтара). Ён жа і "гулагавец".

Прайшло 100 гадоў з дня нараджэння Рыгора Кобеца, а ён усё больш абрастае легендамі. Адбываецца гэта таму, што імя яго і творы замоўчваюцца па сённяшні дзень. А як хочацца, асабліва маладому пакаленню, якое ведае пра Грышку Лахматага (такі літаратурны псеўданім быў у Кобеца) толькі па чутках, па кароткіх, неаб'ектыўных, а часта знарок скажоных інфармацыях у энцыклапедычных выданнях, пачытаць яго творы, паглядзець на тэатральнай сцэне яго п'есы, на экранах кінатэатраў — яго фільмы, даведацца пра лёс самога аўтара. Але нават да 100-годдзя знакамітага драматурга паклоннікі яго таленту не мелі такой магчымасці, таму што раптоўна кудысьці зніклі ўсе копіі першага гукавога і першага на беларускай мове фільма "Двойчы народжаны" (па сцэнарыі Кобеца), этапнага ў гісторыі беларускага кінематографа. Нехта мне шапнуў: "Замачылі: лопнула труба". Але ж копіі знаходзіліся ў розных кутках горада, і не маглі ўсе трубы лопнуць да 100-годдзя Кобеца. А што тут дзіўнага! У 1914 годзе мінскі губернатар даў сакрэтны загад сарваць стогадовы юбілей Тараса Шаўчэнкі, што і было зроблена. Не шанцуе "хахлам" у Беларусі. Хоць сёння не царская ўлада, але, як па камандзе, тэатр імя Я. Купалы адмовіўся прыняць удзел у юбілеі свайго драматурга, п'еса якога "Гута" ў 30-я гады, як кажуць, вывела тэатр "у людзі" на першай усесаюзнай алімпіядзе мастацтваў у Маскве, дзе купалаўцы занялі першае месца (падзяліўшы яго з тэатрам Грузіі) і праславіліся не толькі ў Савецкім Саюзе, але і за мяжой. Адным словам, "аддзякавалі" свайму імяніннніку. (Французы нездарма кажуць: "Ён не даў мне жыць за тое, што я не даў яму памерці". Дарэчы, гэта была любімая прымаўка майго бацькі). Такіх "падзяк" было шмат. Саюз беларускіх пісьменнікаў і Міністэрства культуры, да прыкладу, ні адным словам не адгукнуліся ў прэсе пра 100-годдзе творцы, які, як ні круці, а ўнёс вялікі ўклад у гісторыю беларускай культуры. Гэта ж дзіва! Нават партрэт Рыгора Кобеца, які шмат гадоў захоўваўся ў Доме літаратара, да яго 100-годдзя таксама знік. І зноў шапаток: "Замачылі. У падвале". У нас "замочваць" модна, калі не чалавека, дык яго творы. Зручней было б спаслацца на Свіслач, але рака ў гранітных берагах даўно не разліваецца, нават у вясновую паводку.

Як жа тут не нараджацца легендам? Старажытныя грэкі, няздольныя растлумачыць з'явы прыроды, самі рабілі намаганні ўнесці яснасць. Так узніклі знакамітыя грэчаскія міфы. Вось і я прачытала аб сваім бацьку ў газетным артыкуле маладога, мілага і спачувальнага аўтара, які ні разу не бачыў Кобеца, таму сам "намаляваў" яго партрэт (бо дзе прачытаеш!): "Каларытны гэта быў чалавек, высокі, з рыжаватай, кранутай сівізной чупрынай, пышнымі вусамі". Як жа тут не ўсміхнешся! Рыгор Кобец быў крыху ніжэй сярэдняга росту, рыжым не быў ніколі (нават не фарбаваўся), але вусы сапраўды былі пышныя, а пасля і бараду адпусціў. У сталасці ён нагадваў Карла Маркса, хоць не падзяляў яго палітычных поглядаў і нават змагаўся з "призраком коммунизма", які хадзіў па Еўропе. За сваё вальнадумства мой бацька і трапіў у ГУЛАГ.



*Р. КОБЕЦ з любімым унукам Дзімам (зараз журналіст Д. Філімонаў). Партрэт Р. Кобеца, выкананы ўнукам Дзімам у школьныя гады.*

А цяпер пра асноўныя вехі жыцця Рыгора Кобеца.

З яго паказанняў у засценках НКУС у 1938 годзе: "Маці мая, уроджаная Драч Мотра Яфімаўна, сялянка, нарадзілася ў вёсцы Севярынка Кіеўскай губерні. Яна з маленства пакінула вёску і да замужжа рабіла кухаркай у паноў у горадзе Адэсе *(у тым ліку ў Пурышкевіча. —* **А. К.-Ф.**), а затым у Елісаветградзе (Кіраваградзе). Я нарадзіўся ў 1900 годзе, 12 ліпеня *(па новаму стылю 25 ліпеня, у дзень святога Якава. —* **А. К.-Ф.**), быў незаконнароджаны". Па аповедах бацькі, мая бабка Мотра была прыгажуняй і выдатнай гаспадыняй. Дзякуючы таленту кулінара, ёй удалося накапіць грошай, а затым у Елісаветградзе купіць хатку і выйсці замуж за селяніна Мусія Сандыгу (пазней абое перайшлі ў мяшчанскае саслоўе). Так у майго бацькі з'явіўся айчым. Хату перабудавалі ў пякарню, і пачалося заможнае жыццё.

З васьмігадовага ўзросту Міхайла (сапраўднае імя бацькі) вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе, у народным вучылішчы, а калі яму споўнілася 10 год, дзякуючы намаганням настаўнікаў, яго, як здольнага вучня, перавялі ў земскае рэальнае вучылішча. У дакументах ён лічыцца як Міхайла Драч.

Драч — прозвішча яго дзеда па мацярынскай лініі. Па сямейных паданнях, Драчы вядуць свой род ад казацтва Запарожскай Сечы. Адзін з дзядоў "драў" крупы, адсюль і пайшла мянушка "драч", прыліпла і стала прозвішчам.

Міхайла Драч быў наравістым хлапчуком і даволі часта трапляў у "карцэр" за тое, што абараняў свой гонар кулакамі (рэжым у вучылішчы быў вельмі строгі, кандуіт не мінаў нават "барчукоў"), у выніку псаваліся адносіны з настаўнікамі. А тут і ў сям'і ўсё пайшло "наперакос". У пякарню прыходзілі бальшавікі і сістэматычна забіралі грошы "для рэвалюцыі" (і тады былі рэкеціры). Бацькі збяднелі, айчым пачаў піць і ўшчэнт разарыўся.

Вось як Рыгор Якаўлевіч прыгадвае той час: "У 1913 годзе бацькі мае "прагарэлі". Пачаліся мае непрыемнасці. Перабоі з платай за навучанне, не было за што купіць форму, пагарда з боку вучняў і настаўнікаў. Зноў навалілася маё "байстручаства". Ім калолі мне вочы. А каму пойдзеш скажаш? Бацькі не разумелі, не хацелі разумець. Я ім пра зверскі рэжым у вучылішчы, а яны мне адно дзяўбуць: "Цярпі — але вучыся, хоць лопні, а цярпі". А як цярпець? На кпіны я адказваў мардабоем, а дома мяне за гэта білі, пакуль не траціў прытомнасць.

Адным словам, жыццё маё стала пеклам, і калі грымнула першая сусветная вайна, я ўцёк на Аўстрыйскі фронт...

26 красавіка 1915 года ў баі пад Каламіяй я быў паранены разрыўной куляй у правую руку. Накіравалі мяне на лячэнне ў родны Кіраваград. Вылечылі, на фронт больш не пусцілі і дазволілі вучыцца далей у рэальным вучылішчы. Гэта мяне ўзрадавала, але не надоўга. Ад платы за навучанне аслабанілі, а здзекамі і кпінамі ўзнагародзілі яшчэ больш. Рэжым у вучылішчы быў жорсткім. Над беднатой здзекаваліся. Вучань Навум Лур'е застрэліўся. Вучань Гусараў кінуўся пад цягнік і загінуў. Я не вытрымаў і таксама спрабаваў пакончыць жыццё самагубствам. Лячылі мяне ў шпіталі Чырвонага Крыжа. Вылечылі і... выключылі з рэальнага вучылішча".

А потым грымнула лютаўская рэвалюцыя, і мой бацька ўвайшоў у канфедэрацыю анархістаў групы "Набат". Цяпер яго акружалі такія людзі, як Барыс Волін, Максюта, Аксенфельд. Двое першых сталі яго духоўнымі настаўнікамі і ўцягнулі ў актыўную палітычную барацьбу.

Зімой 1920—1921 года ён прымаў удзел у контррэвалюцыйным мяцяжы ў конарміі Будзённага (на той час мой бацька там служыў), мэтай якога было звяржэнне бальшавіцкай улады і аддзяленне Украіны ад савецкай Расіі. Мяцежнікі рыхтавалі вялікае паўстанне, якое вясной павінна было ахапіць усю Украіну, Дон, Кубань... Меркавалася адрэзаць Маскву і Чырвоны Петраград ад асноўнай базы харчавання і тым аслабіць сілы бальшавікоў. Чатыры месяцы рыхтавалі анархісты гэты мяцеж. Але змова была раскрыта елісаветградскім ЧК дзякуючы правакатару. Пачаліся арышты.

Майму бацьку ўдалося знікнуць. Нейкі час ён хаваўся ў сваякоў на Украіне, а потым апынуўся ў Беларусі. Ён змяніў прозвішча, імя, год і месца нараджэння. З гэтага часу і назаўсёды ён — Кобец Рыгор Якаўлевіч, заканспіраваны выгнаннік, якога прымусілі пакінуць радзіму. Адзін чалавек сказаў: "Кобец належыць да геніяў анархізму часоў грамадзянскай вайны". На вялікі жаль, на гэты раз перамаглі "геніі", якія распачалі кровапралітную грамадзянскую вайну.

Мой бацька разумеў, што бальшавікі захапілі ўладу надоўга, магчыма, назаўсёды. Трэба было пачынаць новае жыццё. Яму ж усяго толькі дваццаць! Такіх, як ён, бяспашпартных і бяздомных, шмат бадзялася па залітай крывёю зямлі пасля разбуральнай грамадзянскай вайны. На дарогах валяліся распухлыя трупы, тысячы жыццяў забіралі голад, эпідэміі сыпнога і брушнога тыфу.

З "Аўтабіяграфіі" бацькі: "Вясной 1921 года страшэнны голад паразіў усю краіну. Засуха згубіла ўраджай. Мёртвыя людзі валяліся на вуліцах. Я перасек амаль усю краіну, бачыў жахлівыя вынікі голаду, разрухі". Ці да пашпартоў тады было! І таму хоць на нейкі час, але можна было схавацца.

І ён стаў Кобецам, фактычна прызнаўшы сябе сынам дырэктара



# СКРОЗЬ ЧОРНУЮ ХМАРУ

рэальнага вучылішча, у якім вучыўся.

Чаму ён выбраў менавіта гэта прозвішча? Ён жа мог назвацца любым іншым, маючы ў кішэні пустыя бланкі пасведчанняў са штампамі, пячаткамі і нават подпісамі, якімі яго забяспечылі анархісты для вярбоўкі людзей у контррэвалюцыйную змову.

З ліста майго старэйшага брата: "Складаная справа з яго біяграфіяй, таму што ён кожны раз апавядае пра сябе з рознымі нюансамі. Адно бясспрэчна: Кобеца, дырэктара рэальнага вучылішча ў Елісаветградзе, ён іншы раз прыгадваў, гаварыў пра яго з вялікай цеплынёй і павагай. Аднойчы назваў яго надворным саветнікам. Але ні разу ніколі не казаў, што ён яго бацька".

Ніколі не казаў ён і пра тое, што вучыўся ў земскім рэальным вучылішчы. Земскае рэальнае вучылішча было заснавана елісаветградскім дваранствам, і вучыся ў ім у асноўным дзеці багатых землеўласнікаў. Паспрабуй дакажы, што ты да іх не належыш. ЧК не паверыць. Бальшавікі ж дваранам літасці не давалі. Вось і давялося хаваць не толькі прыналежнасць да анархіі, але і тое, што вучыўся ў прывілеяванай навучальнай установе. ЧК шукала анархіста Міхайлу Сандыгу, двараніна Якава Кобеца (цяпер і гэта стала вядомым), а Рыгора Кобеца не шукаў ніхто.

Бацька пакідаў радзіму.

З яго паказанняў: "Але куды ісці? Кола замыкалася, і я рашыў прарвацца на Беларусь, дзе мяне ніхто не ведаў, а пры магчымасці перайсці граніцу. З тае прычыны, што на чыгунцы падазроных правяралі вельмі ўважліва, я накіраваўся ў Беларусь пехам, напрамкі праз лясы, і толькі калі-нікалі карыстаўся прасёлачнымі сцежкамі... Праз які час я быў арыштаваны ў адной з маленькіх беларускіх вёсачак (назвы не памятаю). Адтуль мяне накіравалі ў вёску Махновічы, якая знаходзіцца ў 56 вёрстах ад граніцы... Там мяне дапрасілі, а на другі дзень мяне канваіравалі ў горад Мозыр на Прыпяці і перадалі ў распараджэнне ЧК... Перавялі ў Мінск, у ЧК Беларусі".

Чатыры месяцы сядзеў Рыгор Якаўлевіч у падвале на вуліцы Савецкай (цяпер праспект Скарыны). На допыт не выклікалі ні разу. Там ён захварэў на сыпны тыф. Пад моцнай вартай ляжаў у вастразаразнай бальніцы на вуліцы Крапоткіна. Аднойчы праходзіла звычайная разгрузка перапоўненых турмаў, і майго бацьку вызвалілі як памылкова затрыманую асобу. Гэта адбылося 1 студзеня 1922 года. Далячыўся ён і застаўся працаваць у той жа бальніцы качагарам. На той час адзежы не хапала ні хворым, ні здаровым. Майго бацьку апранулі ў адзенне нябожчыка, і ён прыступіў да працы.

Качагарыць ён качагарыў, трэба ж было неяк жыць, але зноў пацягнула да літаратуры. Гэту цягу і любоў да літаратурнай творчасці прывіла яму "рэалка", якая давала сваім выхаванцам не толькі тэхнічную адукацыю, рыхтуючы інжынераў, але і гуманітарную, асноўнае месца адводзячы славеснасці. Менавіта там ён атрымаў літаратурную падрыхтоўку, пазнаў сакрэты драматургіі, таму што настаўнік славеснасці, ён жа дырэктар вучылішча Якаў Паўлавіч Кобец, шмат увагі надаваў драмгуртку (ён захапляўся тэатрам) і тэорыі драматургіі, якая нават уваходзіла ў праграму навучання. Кім толькі ні працаваў Рыгор Якаўлевіч пасля вучылішча: і токарам на заводзе "Эльворці", і маркіроўшчыкам на чыгуначнай станцыі Елісаветград-Таварная, і качагарам на мінскіх заводах "Пралетарый" і "Беларусь", а ўсё ж літаратура перамагла. Яна стала сэнсам жыцця майго бацькі. Нават будучы палітзэкам, у жудасных умовах сталінскага лагера ён і латышскі пісьменнік Эдуард Саленіек (родам з Віцебшчыны) арганізавалі свой "саюз пісьменнікаў", які існаваў нядоўга, але хоць на нейкі час служыў аддушынай знерваваным, галодным, змучаным зэкам. А ў ссылцы Рыгор Якаўлевіч кіраваў драмгуртком, пісаў і ставіў аднаактовыя п'есы і сам іграў ролі.

Беларускі пісьменнік Я. Садоўскі прыгадваў: "Рыгор Якаўлевіч жыў літаратурай, любоў да яе, вернасць ёй нібыта перавышалі, засланялі ўсё астатняе".

Прайшло 80 год пасля таго, як былы "рэаліст" і настаўнік славеснасці вымушаны быў пакінуць сваю радзіму, хаваючыся ад чэкістаў. У 1920 годзе Якава Кобеца, былога нарадавольца, рэўтрыбунал аб'явіў "ворагам савецкай рэспублікі" за тое, што ён не падзяляў бурнай радасці з бальшавікамі, якія ўсталявалі савецкую ўладу на Украіне. Якаў Кобец быў казначэем саюза буйных зямельных уласнікаў і, вядома, не мог падзяляць гэтай радасці...

Елісаветградская газета "Известия" 22 верасня 1920 года абвясціла, што 9 жніўня рэўтрыбунал прызнаў ворагамі савецкай рэспублікі групу буйных землеўласнікаў, у тым ліку Я. П. Кобеца, якія ўцяклі ад савецкай улады. Рэўтрыбунал пастанавіў: "*Принимая во внимание их материальное и социальное положение, признать всех вышеперечисленных лиц врагами советской республики, все их имущество, в чем бы оно ни заключалось и где бы ни находилось, конфисковать в пользу республики...*

*Настоящий приговор в отношении лиц, признанных врагами советской республики, широко опубликовать во всех советских печатных изданиях как на территории всей Украины, так и на территории Великороссии.*

*Всем юротделам как уездных, так и губернских городов предлагается сообщить этот приговор во все советские учреждения.*

*Всем гражданам, у коих могут скрываться все лица, признанные врагами советской республики, по подложным паспортам, предлагается немедленно выдать их властям, ибо в противном случае граждане, укрывающие этих лиц, будут также признаны ревтрибуналом врагами советской респулики и объявлены вне закона*".

Крыху пазней, ужо зімой 1921 года, і мой бацька мусіў ратавацца ад чэкістаў пасля выкрыцця антысавецкай змовы.

У 1987 годзе я атрымала лісты з Украіны ад кіраваградскіх даследчыкаў, у якіх да мяне звярталіся як да ўнучкі Якава Кобеца, дырэктара земскага рэальнага вучылішча Елісаветграда, вядомага педагога, гісторыка і славесніка. Нават "Літаратурны слоўнік Кіраваградчыны" даслалі з прозвішчамі знакамітых землякоў, дзе знайшлося месца і майму бацьку, як вядомаму беларускаму пісьменніку і сыну Якава Кобеца, паважанага ў Елісаветградзе чалавека. Прызнацца, мяне гэта не вельмі здзівіла, таму што легенды аб нашай радаслоўнай я чула з маленства, былі намёкі і на "блакітную кроў" па бацькоўскай лініі, але пра гэта казалі шэптам, бо час быў такі. Цікавасць да свайго земляка кіраваградцы праяўляюць немалую, але інфармацыя іхняя, на жаль, супярэчлівая. У 1988 годзе мяне праінфармавалі, што ў Я. Кобеца было тры дачкі і не было ні шлюбных, ні пазашлюбных сыноў. А гэта ўжо смешна, бо ніхто ніколі не дакажа, ці былі ў яго пазашлюбныя сыны, ці не.

Як бы там ні было, а Якаў Кобец адыграў вялікую ролю ў жыцці майго бацькі, у выбары прафесіі і трывала ўвайшоў у яго біяграфію як выкладчык літаратуры, дырэктар навучальнай установы, у якой вучыўся мой бацька, як чалавек, якога ён не мог не паважаць, таму што абодва змагаліся па адзін бок барыкады. Агульнае было і ў лёсе, і ў характары: баявітыя, вясёлыя, таленавітыя, смелыя і непрымірымыя да камуністаў.

І ўсё ж даследчыкі сёе-тое адшукалі. Устаноўлена, што ў 1915 годзе майго бацьку ўсынавіў мешчанін Мусій Сандыга. Знайшліся яго публікацыі ў елісаветградскіх газетах "Наша жизнь" і "Друг народа" з першымі вершамі і подпісамі — "Солдат Михайло Сандыга". Пад гэтым прозвішчам мой бацька быў арыштаваны і кінуты ў турму гайдамакамі за верш "Лавочка" (1918 год), дзе ён высмеяў гетмана Паўло Скарападскага, якога на гетманскі трон пасадзілі немцы, захапіўшы Украіну. (Гэта быў яго першы арышт. Архіўныя дакументы захаваліся ў кіраваградскім аддзеле КДБ). Пацвердзіліся яго ўцёкі на Аўстрыйскі фронт падлеткам і шэраг іншых біяграфічных фактаў, апісаных Р. Кобецам у яго "Аўтабіяграфіі".

Завяршыліся рэвалюцыйныя прыгоды Рыгора Кобеца. Пачалося новае жыццё пры савецкай уладзе, а гэта быў, хоць і яркі, але вельмі кароткі перыяд.

З 1926 па 1936 год — самы плённы час яго творчасці. Кінарэжысёр П. Шамшур прыгадвае: "Грыша-качагар. Рыгор Кобец. Ён быў першым у Беларусі: першым рабочым-драматургам, стваральнікам першай п'есы аб рабочым класе БССР, першым прафесійным сцэнарыстам кінафабрыкі "Савецкая Беларусь".

У 1930 годзе на першай усесаюзнай алімпіядзе ў Маскве яго п'еса "Гута" з трыумфальным поспехам прайшла па тэатрах усяго Саюза і за мяжой. У 1933 годзе на экраны выйшаў першы гукавы і першы на беларускай мове фільм "Двойчы народжаны", які стаў этапным у беларускім кінематографе, а ў 1936-м — фільм "Шукальнікі шчасця" (абодва кінатворы ўвайшлі ў залаты фонд краіны).

"У сакавіку месяцы 1935 года мяне выклікалі ў Мінск. У акадэмічным дзяржаўным тэатры імя Я. Купалы (БДТ-1) Савет Народных Камісараў і ЦВК Беларусі ўсенародна і ўрачыста надалі мне званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, — прыгадвае бацька. Ён і А. Вольны былі першымі беларускімі пісьменнікамі, якім нададзена гэта высокае званне за станаўленне і развіццё беларускага кінамастацтва. — Я трывала ўвайшоў у кола пісьменнікаў, кампазітараў, артыстаў. Мне дапамагло сяброўства з Янкам Купалам, Кузьмой Чорным, Платонам Галавачом. Знаёмства творчае і асабіста-бытавое з украінцамі М. Кулішам, Дасвітным, Астапам Вішняй, Ірганом, У. Сасюрам, з двума Кулікамі і А. Карнейчуком акрыляла мяне і натхняла на далейшую творчую працу."

Яго творы ставілі вядомыя рэжысёры Е. Міровіч, А. Аршанскі, У. Корш-Саблін. У п'есах і фільмах ігралі лепшыя артысты Беларусі: У. Крыловіч, У. Уладамірскі, У. Платонаў, Г. Грыгоніс, Л. Рахленка і іншыя. У яго фільмах пачыналі свой творчы шлях Б. Бабачкін, Л. Кміт, М. Цароў, Т. Гурэцкая, А. Барысаў, здымаліся ўжо вядомыя артысты, такія, як В. Зускін, М. Блюменталь-Тамарына, І. Бій-Бродскі. У стварэнні фільма "Шукальнікі шчасця" прымаў удзел С. Міхоэлс. У творах гучала музыка І. Дунаеўскага, І. Ільіна, А. Туранкова. Таленавітага і пладавітага пісьменніка падтрымлівалі старшыня Саўнаркама БССР М. Галадзед і старшыня ЦВК БССР А. Чарвякоў.

Шмат было творчых задумак у шчаслівага бацькі. І раптам на самым узлёце, калі ён стаў прызнаным вядучым беларускім драматургам і слава спадарожнічала яму, чорнай навалай наляцеў 1937 год. І ўсё абарвалася. Пачаліся масавыя арышты. Яму, быламу анархісту, трэба ратавацца ў першую чаргу. І ён паехаў на Далёкі Усход. Але і там не было паратунку.

Бірабіджан. 1938 год. 15 ліпеня бацьку арыштавалі. Гэта адбылося пасля публікацыі артыкула "Политическое лицо писателя Кобеца" ў газеце "Биробиджанская звезда", у ім гаварылася аб тым, што Кобец, ідучы па вуліцы, павітаўся за руку з "ворагам народа" і нават размаўляў з ім. У той час гэтага было досыць для арышту. Такіх "пільных" савецкіх патрыётаў было шмат, яны стараліся ўтапіць свайго сябра па пяру, каб выслужыцца перад уладамі і самім не апынуцца ў падвалах НКУС.

На гэты раз абышлося. Праз дзевяць месяцаў следства, допытаў і катаванняў яго аслабанілі з-пад варты непасрэдна на судзе, бо не змаглі даказаць яго прыналежнасць да іншаземнай разведкі як шпіёна (яму інкрымінавалася і гэта). За анархію ён не пацярпеў, таму што яшчэ ў 1927 годзе пастановай ЦВК СССР была аб'яўлена амністыя ўсім удзельнікам грамадзянскай вайны, якія змагаліся супраць Саветаў, у тым ліку і анархістам, акрамя Махно, Дзянікіна, Врангеля і іншых (цяпер і яны рэабілітаваны).

Хабараўск. 1941 год. 4 снежня мой бацька зноў арыштаваны па даносе сяброў-пісьменнікаў за антысавецкую агітацыю і прапаганду (арт. 58—10).

З ліста ленінградскага паэта Сямёна Бытавога: "Дорогой батька Рыгор!.. Ездил я с А. Чепуровым в Хабаровск в 1975 году, както разговорился с Рогалем, ныне уже покойным, и я ему в упор сказал, что по некоторым данным известно мне стало о роли Нагишкина в судьбе Кобеца и, что удивительно, Рогаль подтвердил целиком и полностью. Тогда я стал думать, а не приложил ли Дима руку к ТОЗУ вообще, где была в те годы ужасная утечка людей?"

З абвінавачага заключэння УНКУС Хабараўскага краю (следчая справа № 331): "26 октября 1941 года, находясь в квартире Нагишкина, в беседе с последним в присутствии его жены Черной Кобец Г. Я. высказывал ряд контрреволюционных выпадов против вождя ВКП(б) и мероприятий, проводимых правительством.

Выражая ненависть к коммунистической партии среди своих знакомых, Кобец распространял по адресу вождя ВКП(б) разного рода клеветнические измышления..."

З дакументаў відаць, што Кобеца па заданню правакавала на "шчырую" размову група з пяці чалавек, частуючы яго на кватэры. Дорага заплаціў Рыгор Якаўлевіч за іхнюю "гасціннасць". На гэты раз яму пагражаў расстрэл. Але Асобай Нарадай без суда і следства ён быў сасланы ў перавыхаваўчы лагер на 10 год. Спярша ў Тайшэтлаг, на будаўніцтва чыгункі (БАМа), затым у Манголію, зноў у Сібір, а пасля пажыццёвая ссылка ў кіргізскіх стэпах. (Пра пакуты палітзэкаў у канцлагеры Р. Кобец расказаў у аповесці "Ноеў каўчэг").

У 1960 годзе Рыгор Якаўлевіч быў поўнасцю рэабілітаваны. Але беларускія камуністы не даравалі яму анархіі. У 1963 годзе яго незаконна пазбавілі персанальнай пенсіі рэспубліканскага значэння, забаранілі друкаваць яго лепшыя творы, замоўчвалі яго заслугі ў 30-я гады.

Гэта быў час, калі канчалася кароткая "адліга" і пачыналіся "замаразкі". Новая "траўля" адбілася на здароўі Рыгора Якаўлевіча, і ў 1976 годзе ён цяжка захварэў на інсульт. Яму заставалася жыць яшчэ цэлых чатырнаццаць год. Але што гэта за жыццё ў "матрацнай магіле"? 9 снежня 1990 года яго не стала.

Прайшло шмат гадоў. Час сцірае з памяці многае, калі не пакінуць пасля сябе архівы. Але і яны не вечныя, іх выкрадаюць, фальсіфікуюць, знішчаюць тыя, хто баіцца выкрыцця. Даносчыкі яшчэ жывуць. Не ва ўсіх абуджаецца пачуццё раскаяння, як у Нагішкіна (калі пачалася "адліга", ён пакончыў жыццё самагубствам. А можа баяўся расплаты?). І таму трэба спяшацца пісаць і друкаваць вялікімі тыражамі, каб хоць што-небудзь дайшло да нашчадкаў.

Усім вядома: менавіта яны, даносчыкі, намагаюцца ачарніць палітрэпрэсіраваных, выстаўляюць іх крымінальнікамі, каб апраўдаць сябе і злачынствы карнікаў, тым самым пазбавіць вінаватых ад гістарычнай адказнасці. Колькі разоў мне даводзілася адбіваць падобныя атакі! І я перамагала. Таму што верыла ў сумленнасць майго бацькі, верыла ў сваю праваты. Сама гісторыя даказала, што праўда была на баку такіх, як Кобец. І ніякае ачарніцельства да іх не прыстане.

Як магутныя белыя лебедзі, што праляцелі скрозь чорную хмару, яны застануцца белымі. У нашай памяці. Назаўсёды.



*Здымак польскага фотамайстра Томаша КІЗНЫ. Варкута, красавік 1991 года. Шахта 29.*



**Аповесць "Ноеў каўчэг" напісана Р. Кобецам у 1964 годзе. Гэта страшны дакумент аб тым, як у гады сталінскіх рэпрэсій палітвязняў трымалі за калючым дротам разам з рэцыдывістамі, якія беспакарана іх знішчалі. Рэдакцыя часопіса, у якую Р. Кобец прынёс свой рукапіс, адмовіла яму ў публікацыі, таму што тэма ГУЛАГа была ўжо забаронена. І толькі ў 1989 годзе "Ноеў каўчэг" быў апублікаваны (часопіс "Нёман", № 3).**

**Р. Кобец — першы беларускі пісьменнік, які адважыўся напісаць празаічны твор на тэму ГУЛАГа.**

**Рыгор КОБЕЦ**

# У БАРАКУ

## *(УРЫЎКІ З АПОВЕСЦІ "НОЕЎ КАЎЧЭГ")*

На нейкі час наступіла мёртвая цішыня. Людзі прыслухоўваліся да выцця ветру. За вокнамі лютавала пурга. З дзікім выццём і віскатам раз'юшаны вецер заляпляў снегам аконныя краты, ад яго шалёных парываў калаціліся сцены, здавалася, увесь барак трасецца, як у ліхаманцы, ахоплены страхам. Вецер пранізваў барак наскрозь, часам ён з такой сілай налятаў на дах, што з печкі струменіў, а то і клубамі валіў чорны едкі дым. Гудзела-стагнала ў коміне. Кашлялі, чхалі і лаяліся людзі, якія ляжалі на верхніх нарах.

— Зачыніце дзверцы, гады! Тут жа дыхаць няма чым!

— Як жа... спяшаемся, — агрызалася "ніжняя палата лордаў". — Унізе холадна, хоць ваўкоў марозь.

І зноў пачыналася злосная сварка. У такія хвіліны людзі, змардаваныя, з выматанымі нервамі адчувалі лютую нянавісць адзін да аднаго. Словы сыпаліся такія цынічныя, такія абразлівыя, што ахопліваў жах. Адкуль яны маглі іх запазычыць? З якога жаргону? З якіх невядомых слоўнікаў? І калі ярасць ашалелых людзей напалілася да крайнасці, калі, здавалася, азвярэлыя, яны накінуцца адзін на аднаго і сплятуцца жудасным клубком, сярод гэтага гармідара раптам зазвінеў мяккі, лірычны тэнар, які браў за душу.

Что день грядущий нам готовит?
Его наш взор напрасно ловит.
Снега сибирские метут,
Они нам отдых принесут...

І як ні дзіўна, сварка патухла раптоўна, як і ўзнікла. Спяваў Вася Зяленін, малады эстраднік Ленінградскай філармоніі, які ніколі не журыўся.

— Малайчына, Вася! Замрыце, сукі!.. Ціха!.. Вася! Галубчык, спявай!

— "Спой, светик, не стыдись". А што, калі...

— Маўчы, гад! Спявай, Васёк, спявай... Мы слухаем.

І Вася спяваў. Экспромтам вар'іраваў ён на розныя лады знаёмую многім арыю Ленскага, спяваў з вялікім пачуццём, з агеньчыкам перад самай удзячнай публікай.

Погонят завтра на работу?
Иль, может, отведут в кондей?
Нас всех гнетет одна забота:
Закончить срок наш поскорей.

А калі замёр недзе пад столлю барака Васяў голас, нібыта гром грымнуў сярод яснага неба, здавалася, столь абрынецца на галовы рабацяг... Гэтак апладзіравалі міламу юнаку зэкі. Ніводнаму спеваку ў свеце не даставалася столькі апладысментаў, самых ласкавых эпітэтаў і гарачых падзяк.

Юнак сціпла ўсміхаўся. Твар яго svяціўся такой дабрынёй, такім душэўным прыветам, што рабацягі гатовы былі падняць яго на рукі, каб несці да святла, да сонца.

Дзіўныя рэчы іншы раз адбываюцца ў свеце. Там, дзе спатрэбіліся б намаганні цэлай групы наглядчыкаў ці канвою, адзін толькі задушэўны голас Васі Зяленіна ўціхамірыў паўтары сотні агрубелых, раз'юшаных, гатовых на ўсё людзей.

— Дарэмна хай падымалі. Вася мае рацыю, заўтра, безумоўна, адпачнем.

— А я што казаў? Буран зацяжны... кантоўка забяспечана.

— Эх і высплюся ж я за ўвесь месяц!.. Лёня, ты мне баланду прынясеш?

— Пытаешся... Эй, вы!.. Ніжнія лорды, можаце дзверцы не зачыняць.

— Даўно бы так. Не задушыць дымата, затое будзе цеплата.

Людзі, якія пяць хвілін назад, як ачмурэлыя, крычалі да хрыпаты, гатовыя да бойкі, ужо размаўлялі паміж сабой ціха і мірна. Васева песня, сугучная думкам і марам рабацяг, супакоіла ўсіх. Даліся ў знакі і стомленасць, недаяданне, беспрасветная горыч бязрадаснага існавання. Іменна так: не жыцця, а існавання.

* * *

Дзень пачынаўся як звычайна. Шумелі і сварыліся "шакалы", штохвілінна ляпаючы пячнымі дзверцамі. Куляй вылятаді рабацягі на кухню за баландой з кацялкамі, бляшанкамі ад кансерваў, нават з берасцянымі ўральскімі туяскамі. Бесперапынна ляпалі ўваходныя дзверы, і клубы марознай пары ўрываліся ў барак. У брудных, страшэнна завэдзганых коўдрах неслі брыгадзіры з хлебарэзкі доўгачаканыя пайкі. Акружала брыгадзіраў надзейная, з самых дужых рабацяг "ахова", узброеная здаравеннымі бярозавымі дрынамі. Інакш нельга. Без такой аховы хлеб не данясеш. Наляціць у ранішніх прыцемках натоўп "шкоды", расхапае пайкі, і застанецца ўся брыгада галоднай на цэлыя суткі. Вінаватых не знойдзеш, а хлебарэзка больш ні грама не дасць, хоць ваўком вый, хоць зямлю еш. На ніжніх нарах пры святле лучын (каб было відней) ішла звычайная раздача паек. Крык... гвалт... лаянка, а часам і слёзы, ці злосна-пякучыя, ці горкія ціхія слёзы.

— Сімакоў — сямісотка!

— Раманенка — сямісотка!

— Латышаў — шэсцьсот!

— Курылін — васьмісотка!

— Антанюк — пяцісотка!

— Брыгадзір! Зноў мне сярэдзінка? Сёння ж мая чарга на гарбушку, а мне...

Лясь!.. Звонкая аплявуха брыгадзіра — кароткі і пераканаўчы адказ. Інцыдэнт, як кажуць, вычарпаны. Прэтэнзій больш няма.

— Крамарчук — шасцісотка!

— Федасееў — чатырыста грам, як лёду!

— Па новай чатырыста? — Федасееў, размазваючы па твары слёзы, крычыць дрыготкім ад крыўды голасам: — Не вазьму!.. Брыгадзір! Я ж гэтак дайду... Я ж дубара дам...

— Менш фасонь — большай пайка будзе, — безапеляцыйна, як адрэзаў, брыгадзір.

Скардзіцца дарэмна. На каго скардзіцца і каму? Хто цябе будзе слухаць? А калі і выслухаюць — не паверацъ.

— Не філонь, падлюка, вкалывай.

Брыгадзір падмануў? А што рабіць брыгадзіру? У брыгадзе шэсць "рыл", рэцыдывістаў-законнікаў. Жраць яны хочуць? Хочуць. А працаваць?

— Ты што, падло, шэсць рыл не можаш пракарміць? Што ж ты за бугор? Нам вкалываць не палажана, мы ў аўтарытэце. Вырыгні пайку і скажы, што знайшоў. Сумей вырыгнуць. Менш васьмісотак не бяром. Уразумей... пакуль мы цябе "не сработалі".

Пагроза страшная. Брыгадзір гэта ведае добра і баіцца. Ужо не аднаго брыгадзіра "сработалі". Вось чаму пайка Федасеева цягне чатырыста грамаў, "як лёду". Вось чаму Федасееў, Мікалаенка, Райхельсон, Беціньш, Шпілеўскі, Абдурахманаў і іншыя атрымліваюць па чатырыста грамаў, нягледзячы на тое, што яны працуюць. І вось чаму гэтыя людзі хварэюць пелаграй і дыстрафіяй — грознымі, страшэннымі спадарожнікамі голаду. "Законнікі", або "людзі", як яны сябе называюць, не надрываюцца ад працы. У іх блакітная кроў, ім усё дазволена. Яны нахабныя, груба адбяруць пасылку, паб'юць рабацягу і знімуць з яго барахло. У іх сімвал веры: "нахабства — другое шчасце". Гэта яны ўкаранілі ў лагерах сваю, нідзе і нікім не запісаную запаведзь: "Памры ты сёння, а я заўтра!"

Скардзіцца? І не смей. Калі не тут, не на гэтай калоне, дык на любой перасылцы цябе абавязкова "сработаюць", прытым з лютасцю і садызмам неймаверным. Яны будуць цябе падвешваць, выламваць рукі, вырываць зубы і пры гэтым рагатаць дзікім звярыным рогатам, смяяцца да колік у жываце і спяваць, а больш дакладна, раўці на ўсё горла песні, як толькі можна грамчэй, каб заглушыць твой нечалавечы крык. Ні адзін нават самы драпежны звер на зямлі не можа параўнацца з імі ў жорсткасці, часта зусім бязмэтнай, непатрэбнай, а так... дзеля пацехі-забавы. "Мы людзі, мы ўркі, і нам дазволена рабіць з фраерамі ўсё, што нам захочацца. На тое яны і фраеры". І якімі яны бываюць агіднымі баязліўцамі, калі даведзены да адчаю рабацяга, не вытрымаўшы здзеку, хапаецца за нож або сякеру. Як яны поўзаюць ля яго ног, цалуюць брудныя корды, моляць аб літасці і ў доказ сваёй адданасці і пакорлівасці ядуць зямлю, нават конскі гной, каб зберагчы сваё подленькае жыццё. І калі размякчыцца сэрца рабацягі, заўтра ж яны "падкнокаюць" яго ўсёй бандай (адзін на адзін — ніколі) у цёмным кутку і ўчыняць над ім расправу такую жудасную, такую вынаходніцкую, якая нават у сне не снілася вялікаму інквізітару Ігнацыю Лаёле, якая нават д'яблу на самым донцы пекла не прыходзіла ў галаву.

Але вось з бойкай, крыкам і гвалтам закончана раздача хлеба. У бараку робіцца значна цішэй. Толькі ля печак, аблепленых дахадзягамі (быццам мухі на агрызку цукру), пануе ажыўленне і мітусня. На распаленай да чырвані пліце булькае ў кацялках запраўленая "па новай" баланда. І якімі толькі эпітэтамі ні аздабляюць галодныя рабацягі гэта традыцыйнае лагернае варыва!

— Суп рататуй! Па краях капуста, а ў сяродке...

— Крупінка за крупінкай ганяецца з дубінкай!

Хаця ні аб якіх крупінках і гаворкі быць не можа. Круп і ў паміне няма. Крупы значацца толькі ў раскладцы, распісанай і падпісанай лагернымі вяльможамі, а працей кажучы, "прыдуркамі", гэта значыць: бухгалтарам, пампабыту, рахункаводам прадстала, капцёрам і іншай саранчой. Крупы варацца ў асобным катле, аздобленыя бавоўняным маслам, а часам нават і спецыямі, але... аб такой страве рабацягі нават марыць не смеюць. Гэта блюда багоў, гэты шэдэўр кулінарыі не для іх...

...К абеду буран сцішыўся раптоўна, як і наляцеў учора з вечара. У высокім бяздонным небе павольна праплывалі рэдкія кучаравыя аблокі і там драбіліся ў бяскрайніх снягах мірыядамі рознакаляровых агеньчыкаў. Ціха пагойдваліся ў белых папахах сосны. Уся зона пакрылася шчыльным, ледзь хвалістым белым дываном і стала надзіва чыстай і, бадай, па-свойму ўтульнай.

**Публікацыя А. КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВАЙ.**

## АЎТАКРОС





Адзін раз у сезон беларускія вадзіцелі ўсюдыходаў-джыпаў збіраюцца ў лясах пад Мінскам, каб ва ўмовах бездарожжа змагацца за званне самага ўмелага "джыпера" рэспублікі. На гэты раз яны спаборнічалі ў арыентаванні.

НА ЗДЫМКАХ: нарада штурманаў: (злева-направа) Сяргей ЗВЁЗДНЫ, Дзмітрый СТРЫГА, Віктар РАКУЦЬ; усюдыходы на дыстанцыі.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**



## СМАЧНА ЕСЦІ

### БОРШЧ З ФАСОЛЯЙ І ЯБЛЫКАМІ

Зварыць булён з ялавічыны і касцей ад вяндліны і асобна — фасолю. Нарэзаць саломкай моркву, корань пятрушкі, рэпчатую цыбулю і спасераваць, затым дабавіць тамат-пюрэ і вытрымаць на слабым агні яшчэ 10 хвілін.

У гатовы булён палажыць нарэзаную кубікамі бульбу. Пасля закіпання пакласці туды нашаткаваныя саломкай вараныя буракі, спасераваныя з тамат-пюрэ карэнні, муку, папярэдне разведзеную булёнам. За 5 хвілін да гатоўнасці пакласці нарэзаныя долькамі і ачышчаныя ад лупін і насення яблыкі, адвараную фасолю, соль, цукар і воцат. Падаваць з мясам, сасіскамі і смятанаю.

*300 грамаў касцей ад вяндліны, 200 грамаў ялавічыны, 60 грамаў сасісак, 1 бурак, 4 бульбіны, 1 морква, 1 цыбуліна, 2 сталовыя лыжкі фасолі, 1 сталовая лыжка свінога тлушчу, 2 сталовыя лыжкі смятаны, 1 яблык, 2 сталовыя лыжкі тамат-пюрэ, 1 корань пятрушкі, 1 сталовая лыжка трохпрацэнтнага воцату, 1 сталовая лыжка мукі, цукар, соль.*

### СВІНІНА, ТУШАНАЯ ПА-БАРЫСАЎСКУ

Невялікія кавалачкі свініны пакласці ў гліняны гаршчок, дабавіць нашаткаваную рэпчатую цыбулю, нарэзаную бульбу, леча, часнок, зяленіва, соль і тушыць у духоўцы.

*400 грамаў свініны, 300 грамаў леча, 1 цыбуліна, 1,5 лыжкі топленага сала, 3 долькі часнаку, 8 бульбін, зяленіва, соль.*

### ДРАНІКІ

Сырую бульбу надраць на тарцы, дабавіць муку, кіслае малако ці кефір, соль і перамяшаць. Выкладваць лыжкай на моцна падагрэтую патэльню з алеем і пячы. Гатовыя дранікі пералажыць падсмажанымі з цыбуляй кавалкамі сала і паставіць на кароткі час у духоўку.

*13 бульбін, 1—2 сталовыя лыжкі мукі, 7—8 сталовых лыжак алею, 2—3 цыбуліны, 100—200 грамаў сала, 0,5 шклянкі кіслага малака, соль.*

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.
Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 576.
Падпісана да друку 28.2.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).